У гэтым нумары 6 страніц. Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 7 Вільня, Пятніца, 14-га трауня 1926 г. Год I.

## Дыктатура буржуазіі.

Мінулы тыдзень даў нязвычайна яркі доказ банкруцтва ня толькі гаспадарчага, але і палітычнага жыцьця „дэмакратычнай“ Польшчы, у якой першы галава дзяржавы, пан Пілсудскі, маючы дыктатарскую ўладу, так лёгкамысна ў свой час выдаў працоўныя масы, збаяўшыся іх рэвалюцыянізму, у рукі буржуазіі.

Пакуль яшчэ Партыя Польскіх Сацыялістаў сваім учасьцем у ўрадзе пана Скшыньскага пакрывала гаспадараваньне буржуазіі імем работнікаў Польшчы, — ўрад гэны мог сяк-так дзяржацца, перакладаючы адказнасьць за руйнаваньне краю на працоўныя-ж масы, ды з крывавае працы селяніна і работніка латаючы ўсе дзіры ў дэфіцытным дзяржаўным бюджэце. А з выхадам з ураду пэпээсаў — для далейшага баламуцтва не асталося ўжо грунту. Настаў для буржуазіі мамэнт або прызнацца да свайго банкруцтва і ўступіць мейсца працоўным – работнікам і сялянам, або рашуча пайсьці па шляху замацаваньня свaей—ужо нічым ня прыкрытай—*дыктатуры* і ўзяць на сябе ўсю *адказнасьць* за далейшы ход выпадкаў у Польшчы.

У першы мамэнт пасьля адстаўкі ўраду Скшыньскага буржуазія страцілася: ёй ніяк не хацелася павясьці ігру ў адкрытыя карты! Пан Скшыньскі стараўся ізноў уцягнуць у сваю кампанію пэпэсаў, якія гэтульки часу так шчыра служылі інтарэсам „радзімае“ буржуазіі, тлумачучы работнікам і сялянам, быццам ім толькі тады можа быць добра, калі будзе добра паном... Але пэпээсы, баючыся правалу сваей партыі на будучых выбарах у новы Сойм (калі такі будзе!), адмовіліся. Тады пан прэзыдэнт Войцеховскі пачаў заклікаць да сябе выдатнейшых павадыроў буржуазіі, прапануючы ім становішча галавы ўраду. Але ўсе яны, панюхаўшы паветра, адмаўляліся ад гэтае пачэснае ды адказнае місіі.... Гэтак прабавалі тварыць новы ўрад і пан Скшыньскі, і пан Вітас (сялянская кулацкая партыя), і пан Хаціньскі (з партыі буйных прамыслоўцаў п. Корфантага) і яшчэ раз той-жа Вітас,—усё няўдачна.

З цяжкім сэрцам прышлося пану прэзыдэнту—прынамся дзеля прызваітасьці!—зьвярнуцца да польскае лявіцы ў асобе пэпээсаў, каб яна ўзялася за тварэньне ўлады. Даручэньне атрымаў пэпээсаўскі пасол п. Марэк. Той пробаваў згуртаваць партыі лявіцы і цэнтру, ды навет вёў нейкія гутаркі з жыдамі і ўкраінцамі (ўмяркаванымі!), праектуючы паставіць на чале ўраду... пана Пілсудскага! Але ані прадстаўнікі прамыслоўцаў, ані Вітасоўскія кулакі не захацелі *запраўды* дзяліцца ўладай з пэпээсамі: яны-ж прывыклі, што тыя ў коаліцыйным урадзе займалі мейсца на самым шэрым канцы стала, а цяпэр пэпээсы зажадалі сабе першага мейсца! Не захацеў „ангажавацца“ і пан Пілсудскі на гэткую камбінацыю, маючы праціўнікаў і справа і зьлева.... А ізноў-жа на тое, каб скарыстаць з нагоды і стварыць *запраўды-ж работніцка-сялянскі ўрад—без прадстаўнікоў буржуазіі*, у пэпээсаў ні ахвоты, ні сьмеласьці не хапіла, дый фактычна ня было магчымасьці: яшчэ-ж не засохла кроў работнікаў, пралітая пэпээсаўскімі баёўкамі на вуліцах Варшавы ў дзень першага мая! Дык і пэпээсы зракліся прапазыцыі пана прэзыдэнта, даказаўшы толькі сваё поўнае палітычнае банкруцтва,—даказаўшы йшчэ раз на дзеле, што іх *гутаркі аб работніцка-сялянскім урадзе — гэта адна мана*!

Пан Войцеховскі зрабіў спробу стварыць непарляманцкі ўрад—і на зьдзіў усім!—запрапанаваў тварэньне ўраду чалавеку, імя якога сталася самым ненавісным у-ва ўсей Польшчы: іменна—пану Уладыславу Грабскаму, які давяршыў руіну працоўных і ўсяе дзяржаўнае гаспадаркі. Ведама, з гэтага нічога выйсьці не магло і—ня выйшла....

Але апошні ход, наперад засуджаны на няўдачу, меў на мэце, здаецца, толькі даць магчымасьць буржуазным партыям Сойму падрыхтавацца ўрэшце да таго рашучага кроку, якога яны сьпярша баяліся. Бо-ж пасьля правалу ўраду п. Грабскага справа ўтварэньня новага ўраду была *трэці раз аддадзена пану Вітасу*, і вось цяпер ён, змовіўшыся з так-званай Хіенай і работнікамі-нацыяналістамі (НПР), наважыўся ўрэшце правясьці ў жыцьцё думку аб зьдзейсьненьні *поўнай дыктатуры буржуазіі*, да чаго апошняя дагэтуль манілася дайсьці не праз Сойм, а ці то праз дыктатуру кагось з эндэцкіх генаралаў, ці то шляхам прызваньня на польскі пасад—караля..

Аднавіўся, здавалася, назаўсёды пахаваны ўрад Хіена-Пяста,—той самы ўрад, які ўжо раз адыграў страшную ролю ў жыцьці Польшчы, абясцэніўшы яе валюту (марку!) зьнішчыўшы ўсе зьберажэньні народу і зруйнаваўшы падставы народнае гаспадаркі. Аднавілася *нічым ужо ня прыкрытая* дыктатура польскае буржуазіі. Але разам з тым гэтая *буржуазія ўзяла на сябе і ўвесь адказ за далейшы лёс Польшчы і яе працоўных масаў*. І апошнія зробяць з гэтага належныя вывады: яны будуць з асаблівай энэргіяй арганізоўваць свае сілы, каб даць рашучы адпор імкненьню буржуазіі аканчальна паняволіць працоўных і каб дабіцца зьдзейсьненьня лёзунгу аб *сялянска-работніцкім урадзе*.

Дыктатура буржуазіі—найлепшая навука для сялян і работнікаў, якім шляхам павінны йсьці і яны.

## Важныя падзеі у Варшаве.

„Kurjer Wileński“ падае

**12./V. Пасобныя часьціны войск, раскватэраваныя ў районе Рэмбэртова (пад Варшавай), як абвясьціў ужо камунікат Прэз. Рады Міністраў, адмовіліся падчыніцца сваей уладзе і пайшлі на сталіцу ды занялі часьць места.**

Пасьля палудня марш. Пілсудскі адбыў нараду з п. Прэзыдэнтам Рэспублікі ў справах, зьвязаных з выступленьнем гэтых атрадаў. Увечары **паміж стала раскватэраваным у Варшаве войскам і гэтымі атрадамі дайшло да сутычак.** Цяпер войска знаходзіцца ў казармах, і на вуліцах места спакойна.

**Урад знаходзіцца ў Бэльвэдэры. Паміж п. Прэзыдэнтам Рэсп. і маршалкам Пілсудскім адбываюцца далейшыя перагаворы ў кірунку ўладжаньня ўзьняўшыхся камплікацыяў.**

Тая-ж газэта піша, што выпадкі ў Варшаве адбыліся ў выніку **нападу фашыстаўскіх банд на двор Сулеювак, дзе жыве Пілсудскі** (каля Рэмбэртова). **Войска дало адпор. Пасьля гэтага Пілсудскі ўвайшоў у Варшаву.**

## Ці усё у парадку?

Прадажная прэса даносіць, што дзень першага мая, наагул бяручы, прайшоў ува-ўсей дзяржаве „спакойна“. У гэты дзень—апрача масавых дэманстрацый работніцкай клясы проці пануючага рэжыму—адбыліся на вуліцах многіх гарадоў крывавыя баі, дзесяткі людзей былі забіты і цяжка раненыя паліцыяй ды фашыстаўскімі „баёўкамі“—але абшарнікам і фабрыкантам волас з галавы ня ўпаў, ім нічага ня сталася, хоць з такім панічным страхам чакалі яны першамайскіх падзей. Дык і „ўсё ў парадку“...

Няхай буржуазія і яе слугі трубяць на чатыры бакі, што ўсё ў парадку, няхай зачыняець вочы перад пастралянымі і пабітымі работнікамі, першамайскія выпадкі, як і папераджаючыя іх крывавыя падзеі ў Варшаве, Любліне, Стрыю і іншых месцах гавораць другое: яны гавораць, што вялікія клясавыя войны ў Польшчы не адбыліся, а **тольні пачынаюцца**.

Тым большая патрэба затрымаецца над адным новым зьявішчам, зьвязаным з варшаўскімі першамайскімі падзеямі.

У Варшаве стаўся страшны, нячуваны, ганебны факт: па загаду правадыроў ППС, пэпээсаўскія „баёўкі“ стралялі ў работнікаў іншых пераканаўньняў.

Сам факт, што правадыры ППС не дапускалі работнікаў да супольнай маніфэстацыі ў часе, калі фашыстаўскія правакатары палілі з рэвальвэраў у абедзьве групы работнікаў, — гаворыць за сябе досыць.

Пэпээсаўскія правадыры, якія гадамі служаць пануючым клясам, ды такія скоры да аб'яднаньня з буржуазіяй, загадалі палкамі і стрэламі адагнаць работнікаў іншых пераканаўньняў, якія хацелі супольна з пэпээсаўскімі масамі ладзіць паход.

Для фашыстаў гэтыя людзі мелі і маюць словы пустых пагроз, але для работнікаў знайшлі яны дубіны і рэвальвэры; перад разьліцьцем работніцкай крові яны не затрымаліся. Вось голыя факты. Іх нельга закрыць нічым, як бы ні стараліся пэпээсаўскія ашуканцы іначай прадставіць справу.

Дзень 1 мая 1926 г. і ролю правадыроў ППС у ім мусяць сабе масы добра запамятаць, іменна ў нашыя часы, больш, чым калі небудзь, трэба ведаць усіх сваіх ворагаў і сваіх здраднікаў.

Але нельга мяшаць у адну кучу генэралаў ППС і работніцкіх мас, каторыя арганізованы ў гэтай партыі.

Правадыры ППС,—гэта **агенты буржуазіі сярод работніцкай клясы.** Кожны свой крок робяць яны ў паразуменьні з буржуазіяй. Каб вадзіць за нос работнікаў, мусяць яны **называць сябе** сацыялістамі. Часам навет змушаны запраўды выступіць у абароне працуючага люду, але ўсё гэта робіцца выключна дзеля таго, каб, дабіўшыся **малых уступак**, задурыўшы работнікам галавы, **прадаць іх справу ў найважнейшым.** Правадыры ППС былі-ж навет пры ўладзе, але што яны зрабілі?—Работнікам вечна давалі пустыя абяцанкі, а буржуазіі далі час узмацавацца так, што цяпер яна сьмела дыктуець свае дамаганьні.

Пэпээсаўскія-ж масы—гэта **ашуканыя правадырамі работнікі**. З кожным годам лік іх меншае, партыя ППС ня мае ўжо манаполіі, як калісь, на жыцьцё польскага пралетарыяту. Час, калі гэта партыя і па свайму складу перастане быць работніцкай, мо' ўжо ня так далёка. Варшаўскі скандал прысьпешыць гэты працэс.

Але, пакуль гэтае ня сталася, трэба адрозьніваць правадыроў ППС ад мас. Не з сьвядомымі ашуканцамі, не з паліцэйскай „сацыялістычнай“ партыяй патрэбна працуючаму люду еднасьць: **еднасьць патрэбна з работнікамі, знаходзячыміся ў ёй.** Бяз еднасьці ўсей работніцкай клясы, незалежна ад партыйнай прыналежнасьці і нацыянальнасьці,—немагчыма ўсьпешная абарона працоўнымі сваіх правоў. Хто разьбівае гэту еднасьць—сьвядома, ці несьвядома,—тэй працуець на карысьць буржуазіі; хто далей разьбівае еднасьць працуючых места і вёскі, выдумываючы няістнуючыя проціленасьці між інтарэсамі селяніна і работніка, — той таксама **практычна робіць службу пануючым клясам.**

Толькі боручыся **адзіным фронтам** можна абараніцца і перамагчы.

**Ц.**

**Хочаце паправіць дабрабыт сваей газэты „Беларуская Справа“, дык безадкладна зьвярніце ёй доўг, калі хто не заплаціў яшчэ!**

# Першага мая на правінцыі.

## У Лідзе.

У Лідзе першамайскую маніфэстацыю арганізавалі пэпээсы. Шмат прыйшло сялян з вёсак; людзей было з поўтысячы.

Пэпээсы ўсьцешыліся, але не надоўга. Разышоўся слух, што будзе ў Лідзе пасол Балін з „Незалежнай Партыі Хлопскай“, а яго пэпээсы надта ня любяць і баяцца.

Як толькі скончылі гаварыць іхныя два прамоўцы, хтосьці крыкнуў, каб далі слова паслу Баліну,—а таго навет у памешканьне ня пусьцілі! Падняўся шум, бура воплескаў, дамаганьне, каб дапусьцілі Баліна, а на пэпээсаў крычалі: угадоўцы! далоў! і г. д. Пэпээсы, бачучы, што блага, абвесьцілі сход зачыненым і пайшлі, як кажуць, „ня солана хлябаўшы“. Веча іх было разьбіта.

На вечы пэпээсы гаварылі папольску, мала хто іх разумеў.

Лаялі яны бальшавікаў і хвалілі сябе.

Але ясна, ніхто ім ня верыць; не паможа ім і іх „Красное знамя“, бо беларускія сяляне і работнікі ўжо ведаюць, чаго яны варты. Тутэйшыя сяляне і работнікі лічаць беларускую сялянска-работніцкую Грамаду сваей арганізацыяй, бо-ж яна запраўды бароніць інтарэсы працуючых мас.

**Лідчанін.**

## У Кобрыне.

Невялікае места, налічываючае якіх-небудзь 8 тысяч жыхароў, невялікі лік работнікаў. Першы май, аднак, прайшоў тутка вельмі бурна. За некалькі дзён перад сьвятам паліцыя арыштавала каля 30 чалавек. Езьдзіла яна па вёсках, рабіла вобыскі, загадывала сялянам ня ехаць 1-го ў места.

30/IV вечарам узброенае войска, акружыла горад, пастаўлена было ад 10 да 12 кулямётаў.

1/V амаль ня ўвесь 83 п. п., што стаіць у Кобрыне, і мясцовая паліцыя выйшлі на вуліцу ды, праходзячы дэфілядамі па месту, сьвяткавалі сваю вернасьць пануючым клясам.

Працоўным-жа, ня гледзячы на іх жаданьне, нельга было зьбірацца навет у больш-менш вялікія кучкі. Можна затое было глядзець на каскі, штыкі, вінтоўкі, і г. д. Агулам, гледзячы з боку, можна было падумаць, што гэта ня сьвята працоўных, а сьвята войска і паліцыі!

У іхнай маніфэстацыі прыймалі ўчасьце хлапцы 8—10 летнія і старцы, каторыя парупіліся зарабіць у гэты дзень па пару злотых за здраду працоўных.

У нас нічога ня было, хоць ведаем, што ў Берасьці адбываліся паходы з штандарамі і песьнямі працоўных, налічываючы кала 3 тысяч людзей. Трэба адзначыць, што ўкраінская каапэратыва, аснованая на абломках гэтакай-жа бібліотэкі (гандаль дае больш у кішэню, як асьвета), у дзень 1-го мая была адчынена. Разам з іншымі крамамі яна таргавала і зарабіла мусіць пару грашаў, бо-ж была субота.

**Беларус.**

# Тры праграмы.

## I. Палітычны шлях.

Перад намі — тры праграмы беларускіх палітычных партыяў у межах Заходняе Беларусі: Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, Беларускага Сялянскага Саюзу і Беларускіх Хрысьціянскіх Дэмакратаў.

Тры праграмы—тры кірункі беларускае палітычнае мысьлі, тры розныя сьветапагляды. Пад той час, як Грамада прадаўжае разьвіваць і паглыбляць ідэалёгію першых беларускіх рэвалюцыянэраў — барацьбітаў за ўсебаковае вызваленьне беларускіх працоўных масаў,—ідэалёгію, якая кіравала беларускім адраджэнскім рухам ад самага пачатку XX сталецьця і давяла яго да будаваньня беларускае дзяржаўнасьці,—дзьве апошнія беларускія палітычныя групіроўкі далёка адыходзяць ад старое барацьбянае лініі і стараюцца павясьці беларускія масы на новыя, шмат у чым далёкія ад старой адраджэнскай ідэалёгіі, шляхі.

Перакanaемся аб гэтым, разгледзіўшы галоўныя пункты ўсіх трох палітычных праграмаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Падзел Беларусі паводле Рыжскага трактату, які Заходнюю Беларусь пазбавіў магчымасьці прыняць чыннае ўчасьце ў агульна-беларускім дзяржаўным будаўніцтве,—паставіў беларускую справу ў асаблівыя варункі. Пад той час, як лёс Усходняе Беларусі вырашаецца ў сувязі з Саюзам Сацыялістычных Радавых Рэспублік, самастойнай часткай якога зьяўляецца Радавая Беларусь,—Заходняя Беларусь—праз Польшчу—зьвязана з заходня-эўрапэйскім камплексам буржуазных дзяржаў. Але-ж агульна-беларускім ідэалам зьяўляецца злучэньне ў-вадно ўсіх часьцін Беларускае зямлі. Дык якімі-ж шляхамі—праз Усход ці праз Захад—імкнуцца пералічаныя тры беларукія партыі зьдзейсьніць гэтае свае супольнае імкненьне?

Перш, чым адказаць на гэтае пытаньне, мы адхілімся крыху ў бок, ня зыходзячы аднак-жа з праграмнага грунту нашых трох палітычных групіровак.

Справа ў тым, што да вырашэньня нацыянальнага пытаньня наагул і беларускага асобна дэмакратыі Захаду і работніцка-сялянская ўлада Усходу Эўропы падыйшлі зусім розна. **Захад падзяліў народны** на дзьве катэгорыі: дзяржаўныя і недзяржаўныя—і, залегалізаваўшы ганебны факт панаваньня першых над другімі, як над сваімі рабамі, стварыў саюз народаў дзяржаўных — „Лігу Нацыяў“, за якім і прызнаў права вырашаць усе пытаньні, датыкаючыя жыцьця і сьмерці гэных паняволеных і пазбаўленых права голасу недзяржаўных народаў. У аснову сусьветнага міру Захад паклаў „справядлівы“ падзел між народамі дзяржаўнымі ўсіх „калёніяў“ — з белым і каляровым насяленьнем. Да ліку „белых калёніяў“ дэмакратыі Захаду згодна залічылі і Беларусь..... Наадварот, **работніцка-сялянская ўлада на Усходзе** пайшла па шляху лучэньня ў вялікую фэдэрацыю ўсіх народаў—дзяржаўных і недзяржаўных, даючы ім роўную магчымасьць жыць самастойным жыцьцём, тварыць асобныя дзяржаўныя арганізацыі.*)

*) З прычыны таго, што ССРР прымушаны усё яшчэ вясьці барацьбу з усенькім буржуазным сьветам, цэнтралізацыя ўлады ў ССРР яшчэ надта вялікая, але ў межах культурнага творства народаў ужо праведзена поўная дэцэнтралізацыя.

Пры такім разьвязаньні пытаньня аб форме сужыцьця народаў правы беларускага народу на сваю дзяржаўнасьць аказаліся забясьпечанымі шляхам арганізацыі Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі—раўнапраўнага сябра ССРР.

Гэтая розьніца ў падыходзе да нацыянальных узаемна-адносінаў вынікае з розьніцы агульнай ідэалёгіі заходня-эўрапэйскага дэмакратызму, які імкнецца „пагадзіць“ інтарэсы пануючае на Захадзе буржуазіі з інтарэсамі паняволеных ею працоўных, і ідэалёгіяй перамогшых у барацьбе з буржуазіяй работнікаў і сялян—на Усходзе. Дык вось перад намі і ўзьнімаецца новае асноўнае пытаньне: ці беларусы ўвойдуць у сям'ю вольных народаў пад сьцягам дэмакратызму (— значыць, разам з „сваей“ **буржуазіяй**, якая мо' народзіцца), ці ўвядуць іх туды—**работнікі і сяляне?**

**Беларуская Сялянска - Работніцкая Грамада** ў сваей праграме ясна і выразна дала адказ на апошняе пытаньне: „стоючы на груньце самаазначэньня народаў, Б. С.-Р. Грамада лічыць, што ўсе Беларускія землі павінны быць злучаны і аб'яднаны ў незалежнай рэспубліцы **пад уладаю сялян і работнікаў**“. А ў сувязі з такой пастаноўкай гэтага пытаньня для яе адпадае першае: патрэба выбіраць між Захадам і Усходам. Грамада верыць, што і на Захадзе ўлада мусіць перайсьці ў рукі працоўных, як гэта сталася на Усходзе, а тады зьдзейсьніцца „сучаснае імкненьне працоўных мас да стварэньня цеснага сацыялістычнага саюзу эўрапэйскіх народаў“, і Беларусь злучыцца ў-вадно ў сувязі з аб'яднаньнем Захаду з Усходам.

Як вырашае гэтыя-ж пытаньні праграма **Беларускага Сялянскага Саюзу?**

„Беларускі Сялянскі Саюз лічыць сваім ідэалам незалежнасьць злучаных зямель Беларускага Народу і добрасуседзкія адносіны з іншымі сумежнымі народамі, імкнучыся да фэдэрацыі з імі“,—так сказана ў § 1 праграмы БСС.

Становішча гэтае—вельмі няяснае і зусім не адказвае на пастаўленае намі напачатку пытаньне. Лічба суседзяў беларусаў вядома: гэта—літвіны, палякі, украінцы, вялікарусы, урэшце — латышы. Дык з каторымі і ў якім выпадку думае фэдэравацца БСС: з кулацка-ксяндзоўскай Літвой, ці з „дэмакратычнай“ Польшчай, галоўны „фэдэраліст“ якое п. Пілсудскі публічна казаў у Вільні, што сам ніколі ня верыў у магчымасьць зьдзейсьненьня фэдэралістычнае ідэі? З Украінай—„гэтманскай“ ці Радавай, або з Расеяй — ізноў-жа Радавай, якая істнуе, ці „новай“ — царскай, аб якой лятуціць блізка ўся маскоўская эміграцыя?

Не знаходзім у праграме БСС і яснага адказу на пытаньне аб тым, ці яна наагул грунтуецца на заходня-эўрапэйскім дэмакратызьме з ягонай еднасьцяй з „сваей“ буржуазіяй*), ці—на ўладзе сялян і работнікаў? У § 2 праграмы чытаем, што „да сваіх мэтаў БСС ідзець дарогай арганізаваньня, усьведамляньня і ўзгадоўваньня беларускіх сялян, парабкоў і беларускай сялянскай інтэлігенцыі на груньце сялянскіх клясавых інтарэсаў“; але-ж гэта і ёсьць дэмакратызм, бо абыймае і працоўную сялянскую беднату, і багатыроў-кулакоў, якія толькі тым і злучаны з сялянствам, што прыпісаны да сялянскага стану. У пункце-ж 8 рэзалюцыі, прынятай канфэрэнцыяй БСС, гутар-

*) „Расцьвету“ апошняй у нас доўга чакаць, а пакульшто маем буржуазію польскую і жыдоўскую!...

# Казімір Сваяк.

Звычайны для беларускіх народных інтэлігентаў цярністы жыцьцёвы шлях закончыў Ён звычайнай-жа для іх сьмерцяй—ад сухотаў.

Так яно ў нас вядзецца заўсёды: дзіця, узгадаванае ў курнай мужыцкай хаце, ад першага дня жыцьця свайго спазнаўшае, што такое голад і холад, аддаўшае ўсе сілы свайго кволага цела на працу **мысьлі**,—ня мела ўжо патрэбнае адпорнае сілы на тую страшную хваробу, якая што-дня зьбірае багатае жніво спасярод працоўнае беднаты..... І наш пясьняр, уваходзячы ў самастойнае жыцьцё, увайшоў у яго ўжо заражаны хваробай, якая скасіла цэлы доўгі рад найлепшых працаўнікоў і барацьбітаў за адраджэньне і вызваленьне Беларусі.

— — — — — — — — — — — —

Кс. Стэповіч, яшчэ дзяцюком бышы, вельмі горача і балюча адчуваў сваей нязвычайна чуткай душой вялікую **драму працоўных**. Лішне добра прыглядзіўся ён з малых гадоў да ўсіх нягод і зьдзекаў, якія церпіць сялянская маса — тут, у Беларусі. Прыглядзіўся і да мук мястовага работніка, бачыў, як у вялізарнай сталіцы царскае Расеі—Пецярбурзе—з мазаля работнікаў тварылася і расло ўсялякае багацьце, як працу беднаты пажыралі дармаеды. І ўсё гэтае запісываў у сваім штодзёньніку, і на ўсё гэтае шукаў рады-леку.

Узгадаваны ў каталіцкім духу, сам прадстаўнік каталіцкае царквы, кс. Стэповіч у-ва ўсім гэтым **павінен быў** бачыць **„Найвышэйшую Волю“**. Але тая рэлігія, у якой ён шукаў адказу на ўсе жыцьцёвыя пытаньні, загадвала яму верыць, што гэтая „Найвышэйшая Воля“ разам з тым зьяўляецца і **„Найвышэйшай Справядлівасьцяй“**. Тымчасам жыцьцё яму на кожным кроку паказвала, што не справядлівасьць, а **сіла дужэйшага** пануе над сьветам і дыктуе яму свае законы. Шчыры беларус, гарачы адраджэнец,—кс. Стэповіч бачыў, што народ беларускі пакутуе ў падвойнай няволі: і сацыяльнай, і нацыянальнай—духовай, а віны гэтага паняволенага народу, якая апраўдала-бы „Найвышэйшую Справядлівасьць“, ніяк знайсьці ня мог. Дык, падобна да таго, як некалі беларускі рэвалюцыянэр-паўстанец Костусь Каліноўскі, і наш Сваяк **утраціў веру ў гэную „Найвышэйшую Справядлівасьць“**, якая ня хоча ці ня можа скрышыць пярунамі свайго гневу ўсю крыўду і ўсё злое на сьвеце....

Для каталіцкага ксяндза—гэта-ж вялікая трагедыя. І тым больш вялікая, што ён навет ня мог ні з кім з сваіх таварышоў дзяліцца сваімі думкамі аб гэтым, што наагул **хацеў** шчыра верыць у Моц і Справядлівасьць Бога! Можа гэта і пабуджала яго шукаць выхаду для сваіх думак у паэзіі, гдзе—пад мянюшкай Казіміра Сваяка—толькі і мог шчыра боль душы сваей высказаць.

Праглядаючы томік яго вершаў **„Мая ліра“**, выданы Беларускім Выдавецкім Таварыствам у 1924 годзе ў Вільні, мы і бачым усюды **крык роспачы** „душы збалелай, з мук апалелай“, бачым страшэнную духовую драму паэта-ксяндза, утраціўшага веру ў Найвышэйшую Справядлівасьць. Сваяк нязвычайна балюча адчувае гора і няволю беларускага працоўнага народу, усей душой любіць сваю Бацькаўшчыну-Беларусь, сумуе, што слабыя сілы яго не даюць яму магчымасьці стануць у рады актыўных барацьбітаў за вызваленьне яе, бо **„з рук божага Даўцы“ ён ужо не чакае „збаўленьня з долі апляванай“**, бо „збаўленьне“ гэтае вымагае—**барацьбы!**

І толькі ў самым бяздоньні няверы  
Іскра надзеі ў попелі тлее:  
Іскра надзеі, што рана бяз меры  
Долі народнай душы разагрэе.

Іскра надзеі пажарышчам стане,  
Аж твар схаваюць нябесныя зоры,  
І дух народны адважна паўстане;  
Раўняці будзе даліны і горы!

Сваяк вачыма душы шукае „сільных між браці паганай“ і верыць, што вось нарасьце пакаленьне, якое

Будаваць будзе на зломах Айчыну  
Рукой магутнай з агнём Прамэтэя,  
А сам, як зьгіне, дасьць тастамант сыну,  
Каб не змалела Айчыны Ідэя....

Як маглі зьмясьціцца такія думкі і імкненьні пад чорнай ксяндзоўскай сутанай?! Вось, у гэтым і трагедыя Сваяка, якая пэўне-ж ня ў меншай меры, чым сухоты, нішчыла яго кволы арганізм. Душна і цесна было яму ў тых путах, якімі скаваў яго духоўны стан. А разарваць гэтыя путы ня было ўжо сілы: ані фізычнай, бо цела ўсьцяж слабела, ані духовай, бо **патрэба** верыць, вытвараная ў ім усенькім **узгадаваньнем**, не пазваляла яму фармальна адкінуць тое, што фактычна ў ім замерла....

Дык цяжкім сумам і адчаем веець ад усей паэзіі Сваяка. І адзінай аддушынай, адзінай пацехай у ягоным жыцьці, поўным трагізму, была тая **новая вера**, якая патроху пачала замяняць Сваяку старую веру ў Бога: гэта—**вера ў свой народ**. І ў сваім „Тастаманьце“ Сваяк адказуе гэту веру і прыяцелям сваім, а ворагам народу кажа:

А тым, што як вужак асьліняць нас ядліва  
То жартам панскім, то замовай агідлівай,  
Скажу, што будзе час, калі, прытоптаны нагой,  
Вы скажаце: „Вось, *Беларусь пайшла аднак гарой!*“

— — — — — — — — — — — —

Творчасьць Сваяка не абмежавалася адно гэтым зборнікам. Паэт наш пісаў усьцяж, друкуючы свае новыя творы ў беларускіх часопісях, дый, здаецца, многа вершаў яго асталося ў рукапісах. Пакінуў ён і свой дняўнік, які мае вялікую цану дзеля пазнаньня гэтае вялікае, але надломанае неадпаведнымі варункамі жыцьця і перажытай трагедыяй Душы. Трэба спадзявацца, што ўся літэратурная спадчына па ім будзе рупліва сабрана і аддадзена грамадзянству—ў друкаванай форме.

Глыбокія думкі, шчырыя перажываньні, вылітыя ў вершах Сваяка, зусім акупяць іх тэхнічныя нястачы і шмат каго прымусяць глыбей і паважней унікнуць у жыцьцё, у яго законы і сілы, кіруючыя ім.

**Ант. Навіна.**

ка йдзе, наадварот, аб „аб'яднаньні ўсіх беларускіх працоўных сіл“—значыць, як-быццам не адных сялян, але і работнікаў. Апошняе мусіла-б мець сваім лягічным вывадам імкненьне да **заваяваньня ўлады для сялян і работнікаў,** — але аб гэтым у праграме БСС **нічагусенька ня чутко...** Дык кудой мае вясьці нашае сялянства БСС, якім шляхам,—на чым, на якіх прадставах мавіцца будаваць будучыну Беларусі, якую ўладу хоча мець, з кім з суседзяў фэдэравацца,—так мы з праграмы БСС і не даведаліся. Відаць, тварцы Саюзу і **самі гэтага ня ведаюць** і даць адказу **ня могуць...**

Трэцяя група — **Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя**—мае ўжо зусім выразную ідэалёгію: аб ёй перад усім гавора назоў—„дэмакратыя“. Праўда, афіцыяльнае праграмы гэтае партыі мы ня маем, але вельмі многа гавора нам аб ёй артыкул „Час абнавіцца“, зьмешчаны ў № 13 афіцыозу партыі—„Biełaruskaja Krynica“.

З артыкулу гэтага мы даведываемся, што партыя гэная ўтварылася, як чыста **каталіцкая арганізацыя**, але падумывае аб тым, ці ня добра было-б абняць і праваслаўных беларусаў — наагул, усіх „думаючых пахрысьціянску“. Як бачым з гэтага, у аснову сваей арганізацыі БХД кладзе **рэлігійную адзнаку**, а з пастаўленых чытачом „Bieł. Krynicy“ пытаньняў вынікае, што беларускія хадэкі хацелі-бы наагул абаперці будаваньне беларускае дзяржаўнасьці на **клерыкалізьме**. Так, „дапаўняючы“ праграмы Грамады і БСС, хадэкі стаўляюць пад развагу пытаньні: ці трэба пакінуць зямлі, а калі так, дык сколькі: касьцёлу, царкве? ці павінна быць рэлігія, як прамет, у школе? ці пажаданы поўны разьдзел між касьцёлам, царквой і дзяржавай? Але, як гэтыя пытаньні і Грамадой і Саюзам вырашаны адмоўна, дык самае стаўляньне іх хадэкамі пад развагу і гутарка аб патрэбе „дапоўніць“ праграмы памянёных партыяў паказуе, што павадыры хадэкаў — ксяндзы хочуць і надалей **пакінуць духавенству зямлю**, і надалей **прымушаць дзяцей вучыцца ў школе рэлігіі, аддаючы іх душы ў рукі паноў і ксяндзоў**, і надалей **панаваць** у будучай буржуазнай (дэмакратычнай!) беларускай дзяржаве, ідучы рука ў руку з буржуазнымі ўрадамі, а мо' і цалком захапіўшы ўладу, як гэта ёсьць цяпер у Літве... Дый трэба адзначыць, што ксяндзоў і паноў — беларусаў на ўсю Заходнюю Беларусь знойдзецца мо' некалькі дзесяткаў, уся-ж маса ксяндзоў—гэта заклятыя палянізатары і ворагі беларускага народу, большасьцьжа папоў—пакорныя служкі паноў старостаў і міністра асьветы Грабскага!

Паходжаньне сваё выводзяць хадэкі ад падобных кірункаў заходня-эўрапэйскіх, дык няма сумляваньня, што і **будучыну Беларусі зьвязуюць пэўне-ж з Захадам,—тым самым Захадам, які ўжо засудзіў на сьмерць Заходнюю Беларусь....**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось тыя асноўныя ідэйныя разыходжаньні, якія перад усім выяўляюцца ў праграмах трох пералічаных беларускіх палітычных групаў, незалежна ад іншых спраў, якія перад кожнай партыяй стаўляе штодзеннае жыцьцё.

**К. Фалькевіч.**

## Унутраная вайна у Англіі.

У Англіі адбываецца вялікая ўнутраная вайна. Уласьнікі вугальных капальняў пастанавілі на першага мая работнікам новыя варункі працы: прадоўжаньне рабочага дня пры адначасным зьмяншэньні зарабсткаў. З прычыны таго, што спробы паразуменьня да нічога не давялі, вуглякопы, як ужо ведама, распачалі забастоўку. Англійскія работнікі транспарту і іншых галін прамысловасьці, бачучы няуступлівасьць фабрыкантаў і добра разумеючы, што абніжаньне заработкаў у адным фаху — пацягне за сабой тое самае і ў іншых, прылучыліся да забастоўкі вуглякопаў.

Проці новых дамаганяняў капіталістаў, якія імкнуцца пагоршыць і так цяжкае палажэньне працуючага люду Англіі,—выступіла 6-мільённая работніцкая армія.

Падзеі ў Англіі маюць вялікае значэньне і для ўсяго сьвету: перамога фабрыкантаў тут была-б паражэньнем работнікаў ня толькі англійскіх, але і ўва ўсіх іншых дзяржавах. Усюды па прыкладу Англіі — фабрыканты пачалі б зьніжаць заработную плату і прадоўжываць рабочы дзень. Наадварот, усьпешная забастоўка ня толькі стрымаець наступ капіталістаў і практычна навучыць працоўныя масы таму, што арганізованым выступам можна дабіцца сваіх правоў.

Гэта будзе валам у капіталістычнай крэпасьці, бо англійскія забастоўшчыкі паставілі сабе за задачу дабіцца так-жа і права паставіць свой кантроль над вугальнай прамысловасьцю, хочуць адабраць у буржуазіі права ўсяўладна распараджацца багацьцем краю і жыцьцём мільёнаў людзей.

Змагаючыся, англійскія работнікі выступаюць, як адзін з атрадаў рэвалюцыйнай арміі працоўнага люду ўсяго сьвету. Дабіваючыся ў Англіі кантролі—яны падрываюць асновы капіталістычнай гаспадаркі і ў іншых краёх, яны змагаюцца за лепшае і справядлівейшае жыцьцё. Дык і ўвесь сьвет, сочучы за забастоўкай, падзяліўся на два варожыя сабе табары: капіталісты з аднаго, працуючыя масы з другога боку.

Мо' яшчэ ніколі ня выявілася ў такой поўнай меры міжнародавая салідарнасьць працуючых мас, як у гэтым выпадку.

Інтэрнацыянал вуглякопаў у Брусэлі выдаў загад усім сваім арганізацыям па розных дзяржавах ня грузіць вугля ў Англію. Гэткім чынам англійскіх капіталістаў змушаюць лічыцца з дамаганьнямі вуглякопаў: з заграніцы вугальля яны не дастануць!..

На ўсім сьвеце працуючыя масы зьбіраюць грошы на галадаючых англійскіх забастоўшчыкаў. У Вільні, паміж іншым, зьбіраюць сярод сваіх сяброў складкі і прыймаюць іх ад другіх, работнікі, арганізованыя ў клясавых прафэсіянальных саюзах.

Савецкія вуглякопы выслалі ўжо ў Лёндан 250 тысяч рублёў для бастуючых. Усюды ў СССР адбываюцца сходзіны, дзе абгаварываецца справа помачы. Вываз усіх тавараў з СССР у Англію—спынены.

Камуністычны інтэрнацыянал распачаў шырокую акцыю дзеля паддзержываньня забастоўшчыкаў; ідуць перагаворы з II Інтэрнацыяналам, маючы мэтай аб'яднаньне сіл дзеля супольнай помачы. Калі-б да гэтага дайшло, — ня выключана забастоўка работнікаў у ўсіх краёх Поўначы.

З другога боку, англійскія капіталісты ўсімі спосабамі стараюцца зламаць забастоўку.

Ідзе шырокая арганізацыя штрэйкбрэйхераў, каб заступіць бастуючых работнікаў і пусьціць у ход машыны. У першы чарод зьвернена ўвага на наладжаньне транспарту пры помачы штрэйкбрэхераў, бо-ж гэта найбольш балючае мейсца.

Найгорш, што на старане фабрыкантаў адкрыта і бяз усякіх засьцярогаў стаіць англійская ўлада. Дзеля таго, каб задаволіць ненасытных капіталістаў і абабраць да рэшты работнікаў, яна адважылася ўвесь край увясьці ў цяжкі крызіс.

Бачым, чаго варты гутаркі, быццам пры буржуазным парадку дзяржава служыць агульна-народным інтарэсам! Ня толькі работнікі церпяць ад голаду, змушаныя самі забастоўкай бараніць істнаваньня, але ўсё насяленьне ня можа жыць нармальна з прычыны забастоўкі.

У Англіі абвешчаны „надзвычайны стан“. Англія падзелена на ваенныя акругі з дыктатарамі на чале, якія напр. маюць права арыштовываць людзей амаль бяз усякіх фармальнасьцяў. Паліцыя пастаўлена да абароны штрэйкбрэхераў. Пры прадоўжаньні крызісу— мае быць ужыта для зламаньня забастоўкі войска і ваенны флёт.

Забастоўка зацягіваецца, канца ня відаць.

У апошнія дні забастоўшчыкі актыўна пачалі бароцца, як з дабравольнымі слугамі капіталістаў, так і з ахранай. Ёсьць ужо і ахвяры. Вайна з бяскроўнай пачынае перахадзіць у крывавую. Адначасна забастоўка пашыраецца: што раз то ў новых галінах прамысловасьці работнікі кідаюць працу.

**А.**

## Значэньне Бэрлінскага Трактату.

Найлепшым тактычным ходам, як у шахматах, так сама і ў дыпляматыі, зьяўляецца такі, які адразу забясьпечывае выкананьне свайго пляну і—раскрывае ды разваліве ўвесь плян праціўніка...

Якраз такім мастацкім ходам можа запраўды найлепшага „шахматыста“ сучаснай дыпляматыі— Чычэрына—і зьяўляецца заключэньне Бэрлінскага Трактату.

Перад усім—цікавае параўнаньне: Трактат з СССР прыняты нямецкім парлямантам **абсалютна аднагалосна**—ад манархістаў да камуністаў! — Так сама аднагалосна ратыфікаваны англійскім парлямантам — Лёкарнскія Трактаты з Нямеччынай. Але — ці Нямеччына адплаціла Англіі такой-жа шчырай адзінадушнасьцяй? — Саўсім не! Лёкарнскія Трактаты прыняты ў Нямеччыне—вельмі нязначнай „урадавай большасьцю“, якой можа-б і не хапіла для ратыфікацыі, калі-б ня стрымаліся ад галасаваньня цэлыя значныя ды ўплывовыя партыі Рэйхстагу...

Вось першая **мера перамогі** ў тэй „барацьбе за Нямеччыну“, у якой даўно так заўзята рывалізавалі між сабой на міжнародавым шахматным тур-

## З падарожжы па Радавай Беларусі.

### Польскасьць.

Калі каму дрэнна жывецца, то ён стараецца выявіць гэта праз параўнаньне свайго быту з суседзкім. Калі сёньня тут, пад Польшчай, мы—беларусы амаль нічога ня маем, акромя папяровых законаў, то дужа на часе даведацца, **што маюць палякі ў Радавай Беларусі?**

Мушу прыпомніць пры гэтым, што тагды, як мы тут жывем густой масай на пэўнай тэрыторыі, палякі там вярбуюцца з несьвядомага беларускакаталіцкага насельніцтва, раскінутага паасобнымі группамі ці адзінкамі на ўсім абшары Радавых Рэспублік. Аб тым, што мае польская „мнейшасьць“ у Маскве і Ленінградзе, я ўжо пісаў.

Ходзіць цяпер выключна аб Радавую Беларусь. Але, каб не асудзілі мяне за староннасьць, я толькі перадам у кароткіх словах тое, што гаварыў паляк Гэльтман на ўсебеларускім зьезьдзе сялян-палякоў:

„У нас, на Беларусі, дзяржаўнымі мовамі зьяўляюцца: беларуская, жыдоўская, расейская і польская. На гэтых мовах друкуюцца ўсе законы. Каб роднай мовай маглі карыстацца самыя дробныя паселішчы, у нас арганізаваны нацыянальныя сельсаветы. Ужо існуе 12 польскіх сельсаветаў і арганізуюцца новыя тры сельсаветы.

Палякі таксама маюць 3 нацыянальныя суды: у Менску, Барысаве і Магілёве, маюць штодзённую газэту „Młot“.

На абшарах БССР існуе 108 (па статыстыцы леташняга года 94) пачатковых польскіх школ, 5 сямігодак і 1 пэдагагічны тэхнікум. Ва-ўсіх польскіх школах навучаецца 10.000 дзяцей. Беларуска-польскіх школ 57. Апроч гэтага, ёсьць 19 польскіх хат-чытальняў і 9 хат-чытальняў на ўтрыманьні сялян, 4 клюбы, 5 дзіцячых дамоў, 2 дзіцячыя сады, 1 калёнія і Польскі Аддзел пры Інстытуце Беларускай Культуры. Гэты Аддзел мае сваёй мэтай вывучаць польскую культуру, польскую мову на абшарах БССР.

Гэта кароценькі агляд таго, што мае невялічкая група апалячаных беларусаў у Радавай Беларусі. Проста палякамі назваць іх не магу, бо большасьць з іх карыстаецца беларускаю мовай дома і лічыць сябе палякамі, дзякуючы толькі энэргічнай **агітацыі ксяндзоў і быўшых шляхтункоў**, якія пралезьлі ў радавыя ўстановы і адтуль досіць актыўна падтрымліваюць польскасьць. Гэта відаць усюды, і гэта было відаць і ў дзіцячым гарадку ў Менску, гдзе, атрымліваючы аднальковыя дзяржаўныя дапамогі, дзеці-палякі знаходзяцца ў значна лепшых варунках, чым беларусы... „Нявідзімая рука“ кіруе і дапамагае, бо відаць на гэтым камусь-то залежыць.

Вось кароценькі агляд таго, што маюць палякі пад Беларусьсю. Міма волі ўзьнімаецца пытаньне: а што маюць беларусы пад Польшчай? Што на гэта скажуць „казённыя беларусы“ і іншыя брахуны?

Пытаньне—настолькі яснае, што, думаю, кожны паважны чытач сам адкажа на яго...

### Агульнае ўражаньне.

Ва-ўсей сваей справаздачы я быў аб'ектыўным перадатчыкам таго, што бачыў. Гэтага правіла трымаюся і цяпер. Ня гледзячы на гэта, было зроблена мне шмат закідаў за якабы „староннае“ асьвятленьне закардоннага жыцьця. Не мая віна, што многім гэтая праўда вочы коле. Адны—дзеля партыйных мэтаў, другія—дзеля якіх-кольвек іншых прычынаў хацелі-б, каб усё, што робіцца на Усходзе, было дрэннае, або каб хаця аб гэтым тут для сваіх так пісалася. Езьдзілі-ж мы якраз ня дзеля таго, каб паўтараць старую байку, якая вядома з буржуазнай ці эмігранцкай прэсы, а дзеля таго, каб нарэшце сказаць праўду аб тым, што на ўласныя вочы бачылі.

Ніхто не бярэцца нікога ўпэўніць у тым, што там ўсё добра, як ніхто ня можа сказаць наадварот, што там усё блага! Есьць добрае, ёсьць і дрэннае. Дзеля правільнай ацэнкі трэба падхадзіць да гэтага з якой-кольвек параўнаўчай меркай. Калі, напр., параўнуем з даваенным часам, то бачым, што ў прамысловасьці, як і ў іншых галінах жыцьця, дайшлі толькі да 90 - 95% таго, што было да вайны. Калі-ж параўнаваць з 1920 годам, то палепшылася ўсё больш, як у 150 - 200 разоў. Прыгэтым трэба заўсягды прынімаць пад увагу і тое, што перажылі Радавыя Рэспублікі за апошнія гады і пры якіх варунках прыступілі да будаўніцтва і толькі тады можна ацаніць той вялізарны крок наперад, які зроблены ва-ўсіх галінах жыцьця Рэспублік.

Было аграмаднае балота: дзе-не-дзе тырчэлі можа і добрыя кветкі. Прышоў нехта і пусьціў туды сьвежую струйку праточнай вады. Гэтая струйка захапіла ўсю дрэнь і смурод балота і панясла з сабой, зламаўшы часам на дарозе і ўпартую добрую кветку. Праз нейкі час балота ачысьцілася ад ўсялякай дрэні, і вадзіцца ў ім зрабілася годнай для піцьця, а значыць—і для жыцьця.— Так і быўшая Расейская Імпэрыя была тым балотам, гдзе задыхаліся ня толькі народы іншай нацыянальнасьці, а і свае. Патрэбна была рэвалюцыйная стыхія, якая ачысьціла-б атмасфэру. Гэта зроблена. Паўстаў хаос. Патрэбен быў гаспадар, каб усё прывясьці ў парадак. І ён прышоў і старанна расстаўляець ўсё на сваё мейсца. Адразу гэта ня зробіцца, бо патрэбна ўсё прымерыць раз, другі раз, пакуль не датарнуеш настала. У час нашага пабыту не адзін раз пыталіся ў нас аб тым, што мы знаходзім дрэннага, каб мець магчымасьць паправіць. І гэтая грамадзкая сьмеласьць—не баяцца сваіх хібаў, балячак — паказываець, што будаўнічыя новага жыцьця ў СССР стаяць на правільнай дарозе да выздараўленьня і йдуць правільным шляхам да сваей мэты.

Адзін з Радавых палітыкаў сказаў: „Мы перажылі страшныя і цяжкія часы, перажылі нуль і ідзём к адзінцы, а Вы, наадварот, ад адзінкі ідзіцё к нулю“. Хто ведае, ці ня меў ён рацыю?..

Калі да ўсяго. што сказана было вышэй, дабавіць, што кожная нацыянальнасьць чуе сябе **дома** і будуе на сваю ўласную мерку сабе хату, без прыганятых і апякуноў; што кожны работнік адчувае сябе гаспадаром таго завода, на якім працуе, а селянін — гаспадаром сваей зямелькі; што інтэлігенту, гледзячы на яго здольнасьці, даецца магчымасьць тварыць усё паводле апошняга слова тэхнікі, як гэта бачылі на Шатурцы,— то гэта бадай і будзе ўсё, што можна было сказаць пра тую краіну, якая ляжыць на Усход ад нас.

26/II—26 г. выехалі з меж Радавых Рэспублік, паслаўшы з Негарэлага шчырую падзяку ветлівым гаспадаром за гасьціннасьць.

**П. Мятла.**

(К А Н Е Ц).

ніры Чэмбэрлен і Чычэрын. Ужо з гэтага ясна, што для Нямеччыны Лёкарно — гэта тактычны крок урадавай дыпляматыі, а саюз з СССР — гэта падстава зразумелай для ўсяго народу дзяржаўнай палітыкі краю... Тэй абмылкі, якая зроблена Нямеччынай перад 1914 г., нямецкі народ больш ня зробіць!

Страшэннае абурэньне проці Нямеччыны, якое ўраганам носіцца, ня спыняючыся, па ўсей заходня-эўрапэйскай прэсе, выклікана перад усім ясным зразуменьнем гэтай „здрады“ Нямеччыны.— Заходнім дзяржавам — пераможцам зрабілася да канца ясным, што, ня гледзячы на ўсе іх „шляхотныя ўступкі“ ды запросіны да „роўнасьці“, Нямеччына будзе вясьці з імі толькі „тактычную ігру“, а па сутнасьці — барацьбу, апіраючыся ўсё больш на магутны саюз з СССР, які дае Нямеччыне запраўдную непераможнасьць. Гэткім чынам—уся тая спрытная сець, якую так доўга круціў Чэмбэрлен, каб адцягнуць Нямеччыну ад СССР, парвалася, як павуціна...

Перакруціў Чэмбэрлен у сакавіку, ня здолеўшы рашуча выбраць паміж Нямеччынай і... Польшчай. Перакруціў і ў красавіку, выпусьціўшы ўжо аканчальна Нямеччыну з сваіх рук...

---

Раскрыла і разваліла лоўкая перамога Чычэрына і ўвесь плян Чэмбэрлена, як павадыра ўсей ваюючай эўрапэйскай буржуазіі. Плян гэты імкнуўся акружыць блёкадай СССР, ці навет мо' і—падрыхтаваць агульны паход проці СССР.

Ваюючая англійская буржуазія зразумела добра, што без Нямеччыны ўся барацьба проці СССР—дарэмна. Зразумела, што ані Францыя, ані ўвесь той пояс старых і нова ўтвораных дзяржаваў, які ляжыць між СССР і Нямеччынай, можа быць выкарыстаны дзеля паходу проці СССР толькі пад тым варункам, каб ззаду ў іх не апынулая Нямеччына, як прыяцелька ды саюзьніца СССР!.. І вось—на табе: замест Лёкарно, якое праваліласяў сакавіку на Агульным Зборы Лігі самым скандальным спосабам,—Саюз Нямецкай Тэхнікі з Расейскай Рэвалюцыяй—найстрашнейшая змора сусьветный буржуазіі—запраўднае „чырвонае яечка“ ўсім Чэмбэрленам на Сьвята!...

Абурэньне заходняй прэсы проці нямецка-радавага саюзу толькі падчырківае запраўдны зьмест Лёкарнскіх Трактатаў, як скіраваных выразна проці СССР. Нямеччына і тады, у Лёкарно, атрымала пэўныя палёгкі ў тасаваньні арт. 16 Статуту Лігі, які па сутнасьці абязываў-бы яе прыняць учасьце ў паходзе ці ў блёкадзе проці СССР—на выпадак вайны. А цяпер, — у выніку Бэрлінскага Трактату—з Лёкарно выкідаецца цалком увесь гэты арыкул, ці — **выпадае з „Лёкарно“ ўвесь „лёкарнскі дух“, увёсь зьмест і сэнс усяго Трактату**... Цяпер, з Нямеччынай можна ўмаўляцца, ці змаўляцца аб чым хочаш, толькі — **не аб змове проці СССР!**.. — Дык ня дзіва, што ўсе „лёкарнцы“ аж равуць са злосьці...

І гэты запраўды-ж супярэчны зьмест абодвух трактатаў вельмі дасьціпна адзначыў Літвінов на апошнім паседжаньні Цэнтральн. Выкан. Камітэту СССР. З забойчай іроніяй ён казаў, што справа—ці пярэчыць Бэрлінскі Трактат Лёкарно? — гэта справа не СССР, але—Нямеччыны, бо-ж яна, але не СССР, падпісала Лёкарнскі Трактат. Для СССР справа толькі — ў тым, які з абодвух Трактатаў **пярэчыць агульнаму міру. Калі чыста абаронны** Бэрлінскі Трактат пярэчыць міру, як гэта піша ўся заходняя буржуазная прэса (апроч нямецкай), Трактату Лёкарнскаму, значыць запраўды-ж тэй мае **зачэпны зьмест** ды рыхтуе нейкі „блёк проці СССР“, ці яе адасобненьне... Але-ж гэтага неяк ня кажа англа-француская прэса: наадварот, гэта яна ўкрывае... Дык ляпей аб „супярэчнасьці“ Трактатаў гэтай прэсе памаўчаць!

---

Гэтак, далейшым вынікам Бэрлінскага Трактату, пазбавіўшага Лёкарнскі Трактат запраўднага **процірадавага** „духу Лёкарно“, зьяўляецца **разьбіцьцё ўсей „лёкарнскай групы дзяржаў“**,—бо яна, трацячы, як актыўнага сябра, Нямеччыну, траціць увесь запраўдны сэнс свайго істнаваньня.... А яшчэ ў далейшым крах „Лёкарно“ ня можа не адбіцца такім-жа фатальным рэзультатам і **на самай Лізе Народаў**, у якой група „лёкарнскіх дзяржаў“ мела быць, па думцы Чэмбэрлена, галоўным ядром дый іграць рашаючую ролю. І зусім зразумела, што шляхам далейшай кампрамітацыі дый развалу гэтай штучна створанай пераможцамі—выключна ў мэтах падтрыманьня і захаваньня ўсіх рэзультатаў сваей перамогі, усіх недарэчнасьцяў ды гвалтаў,—штучна створанай ды пакроенай азброенымі вар'ятамі і ліхвярамі ў Вэрсалі Эўропы — і пойдзе далейшы ход падзей. У тым-жа напрамку, дый ня толькі нэгатыўна-разьбіваючы Лігу,—але і позытыўна—**творачы замест яе больш жыцьцяздольныя саюзы і паразуменьні** — ідзе і ўся далейшая, зьвязанная з Бэрлінскім Трактатам, палітыка Чычэрына. Гэты практычны падзел роляў — на разбураючую і творчую—вельмі добра выяўляецца — з аднаго боку — у толькі што разасланай адозьве Комінтэрну проці Лігі Народаў, і—з другога боку—у дыпляматычнай акцыі ды заявах Чычэрына і яго бліжэйшых супрацоўнікаў — Раковскага і Літвінова.

Усе гэтыя адказныя кіраўнікі радавай палітыкі заявілі, што паводле узору Бэрлінскага ці Турэцка-расейскага Трактатаў Радавы ўрад запрапануе дагаворы цэламу раду сумежных з СССР дзяржаў, якія-ж пэўна-ж будуць гарантаваць тых, якія запраўды жыцьцяздольныя, іх нятыкальнасьць і іх жыцьцёвыя інтарэсэсы—лепш, як „лёкарнскія пігулькі ад зямлятрасеньня“, ці — Ліга Народаў. Бо-ж гэтыя—кіруюцца толькі інтарэсамі „вялікіх“, а перад усім—Англіі. Трэба толькі, каб усе гэтыя дзяржавы перасталі служыць прыладай ці лялькай у руках Чэмбэрлена, але памяталі толькі і выключна—аб **сваіх уласных інтарэсах**.

---

Бэрлінскі Трактат між СССР і Нямеччынай можа служыць запраўды-ж клясычным прыкладам **вольнага, сьведамага—карыснага—саюзу дзяржаваў**, прынятага аднагалосна ўсім народам,—саюзу дзеля таго—запраўды **выключаючага між гэтымі народамі ўсялякую магчымасьць варожасьці ці вайны**... — Процірадавай Эўропе Бэрлінскі Трактат паказаў ясна, што ўсялякія спробы лёкарнскага ці жэнэўскага **„міру проці СССР“** — гэта недарэчнасьць; што гэтыя дрэнныя спробы могуць выклікаць новую вайну. **Усім суседзям СССР** — у поясе між ім і Нямеччынай—гэты Трактат **паказаў тыя рэальныя геаграфічныя, эканамічныя і палітычныя рамкі і межы**, у якіх яны найляпей могуць **здаваляць свае жыцьцёвыя інтарэсы**,—паказаў і—шлях і ўзор **паразуменьня з СССР**, наймацней гарантуючыя мір і на Усходзе Эўропы...

**Н.**

---

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Склад габінэту Вітаса.

Пасьля 2-х няўдалых спробаў аднаўленьня ўраду Хіена-Пяста—пад старшынствам п. Вітаса—усё-ж такі ў канцы канцоў уся гэтая кумпанія пагадзілася адносна „партфэляў“ дый сьпелася аканчальна.

10-га траўня п. Прэзыдэнт зацьвердзіў прадстаўлены п. Вітасам габінэт—у гэткім пакуль-што складзе: прэм'ер—п. Вітас, часовы мін. замежных спраў—кіраўнік Дзяржыкрай (!) — Маравскі (хадэк), мін. унутр. — сэн. Смульскі (душа ўсіх законаў для „Крэсаў“, выдуманых дагэтуль!), ваенны міністар — ген. Мальчэвскі, мін. скарбу—той-жа (?) п. Зьдзеховскі (эндэк), мініст. асьветы—той-жа п. Ст. Грабскі (эндэк), мін. земляробства той-жа—п. Кернік (Пяст), мін. гандлю і прамысловасьці—той-жа п. Асецкі (Пяст), мін. чыгункі—Хандзыньскі (нацыяналіст-работнік), мін. зямельных рэформ—Радван (Пяст.).

У абодвых міністэрствах работніцкіх—вакансіі,—бо іх хочуць папросту скасаваць.

### Канфіскацыя „Kurjera Poran.“.

У „Słowie“ зьмешчана тэлеграма з Варшавы з 11-га траўня гэткага зьместу:

„Сягоньня па загаду ўраду сканфіскаваны „Kurjer Poranny“ за інтэрвью, у якім маршалак Пілсудскі робіць закід партыі „Пяст“ і галаве гэтае партыі — цяперашняму прэм'еру Вітасу, што спрыяюць зладзеям“.

## Заграніцай.

### Вялікія манёўры ў Б.С.Р.Р.

У пачатку ліпня ў ваколіцах Смаленска маюць адбыцца вялікія манёўры чырвонай арміі, у якіх возьмуць учасьце войскі Віцебскага, Менскага, Смаленскага і Маскоўскага ваенных акругоў.

---

# Суд над „цэнтраляй“ польскіх фашыстаў.

Пасьля трох з паловай гадоў сьледзтва нарэшце дачакалася суда галосная справа рыхтаваўшагася ў 1923 г.—у часе панаваньня ў Польшчы ўраду Хіена-Пяста—**фашыстаўскага перавароту**, які мела зрабіць так-званае „Пагатове Патрыётаў Польскіх“ (П.П.П.). Тады ўся справа магла раскрыцца толькі дзеля таго, што хіена-пястоўскі ўрад нарэшце зваліўся, дык і „пераварот“ неяк не дасьпеў да зьдзейсьненьня. І цікаўна, што якраз цяпер, калі фашыстаўскія імкненьні ўжо саўсім рэальна ператвараюцца з лятуценьняў у дзела, як „адзіны астаўшыся спосаб ратаваньня краю“, цяпер „цэнтраля польскіх фашыстаў“ садзіцца на лаўку абвінавачаных. Запраўды-ж — ня можна было выбраць больш карыснага для падсудных мамэнту!..

На лаўцы падсудных сядзіць толькі 6 асоб, сёмы—камісар паліцыі — не дачакаўся суда ды памёр. Паміж абвінавачанымі — генарал і палкоўнік польскай арміі, праўда—у адстаўцы. Але-ж кожнаму ясна, што гэта—зусім не запраўдны штаб польскага фашызму, а так сабе—адзін з гурткоў, ці мо найбольш рызыканцкая, найменш кансьпірацыйная і няздарная першая баёўка, раскрыўшая карты, як „пробны шар“, каб аблягчыць працу галоўным сілам штабу.

Бароняць папаўшыхся фашыстаў „найлепшыя сілы“ „чорнай сотні“ польскай адвакатуры.

Апрача генаралаў, палкоўнікаў і паліцэйскіх камісараў, у склад фашыстаўскай арганізацыі, як сцьвярджае акт абвінавачаньня, уваходзілі — (як калісьці ў расейскую чорную сотню—папы)—польскія ксяндзы. У адной Варшаве аж чатыры касьцёлы з сваімі айцамі капуцынамі ды бэрнадынамі былі мейсцамі сходаў і прысягі сяброў П.П.П.

У арганізацыі было шмат ваенных, апрача цывіляў. Зьбіраліся складкі на аружжа. Зьбіраліся найвялікшыя „зборы“ — на могілках (сымвалічна!). Выдавалі падпольныя адозвы, заклікаючы да ўвядзеньня дыктатуры ў Польшчы. Арганізацыя мела шырока разгалінёную сець аддзелаў — ваяводзкіх, павятовых і г. д. У „галавы“ яе Пэнкаслаўскага знойдзены пры вобыску цэлы вялізарны архіў ды канцэлярыя, з якімі ён, як відаць, навет і ня крыўся.

З дакумэнтаў відаць, што Сойм і Сэнат мелі быць разагнаны, а замест іх мелі быць „арганізаваны здаровыя сілы народу“ (—ведама-ж, толькі і выключна польскага!)—пад дыктатурай свайго „Мусоліні“. У праграме арганізацыі на першым пляне стаяў — **тэрор**... Неабходнасьць тэтору тлумачылася тым, што ўсе беды ў Польшчы залежаць ад засільля ў ёй — зразумела-ж перадусім жыдоў, ды іншых меншасьцяў, якія захапілі аж 90 мейсцаў у чыста польскім Сойме. Дык ясна-ж, што ўсіх гэтых шкоднікаў польскай дзяржаўнасьці П.П.П. мела перадусім пазбавіць мандатаў... на жыцьцё. Пасьля слаўнай Кракаўскай бойні Галоўная Рады П.П.П. пастанавіла чым хутчэй прыступіць да тварэньня „баявых атрадаў“—у шырокім маштабе, скіраваных проці работніцкай клясы, сацыялістаў ды камуністаў. Знойдзены дакумэнты аб сувязі і з Ваенным Міністэрствам...

Пракурор у акце сцьвярджае, што П.П.П. выразна стала на шлях падрыхтаваньня замаху, што ясна з цэлага раду загадаў цэнтралі — да сваіх аддзелаў. Замах меў быць выкананы ў канцы лістапада 1923 г. У акцыі мелі прыняць учасьце ўсе верныя П.П.П. афіцэры цэлага раду палкоў Варшаўскага, Віленскага, Кракаўскага, Пазнанскага і інш. гарнізонаў. Першым чынам мелі быць захоплены склады аружжа, арсэналы, крэпасьці, пляны якіх усе былі ў архіве арганізацыі.

---

Усе абвінавачаныя прызнаюцца да сяброўства П.П.П., але віны ніякай у гэтым ня бачаць. Найбольш крымінальныя рэчы перакідваюць адзін на аднаго. Цікаўна і тое, што „галава“ Пэнкаславскі, пасьля арышту ў студзені 1924 г., вельмі ахвотна ды шчыра раскрываў усю арганізацыю, называючы ўсіх яе сяброў. Бо-ж ведама: чаго-ж хаваць найлепшых „патрыётаў польскіх“?!

У свой час вельмі многа пісалася аб блізкім учасьці ўва ўсей гэтай арганізацыі самога ваеннага міністра Хіена-Пяста — „слаўнага“ генарала **Шэптыцкага**. Выкліканы цяпер, як сьведка, генарал нешта „амаль нічога не памятае“. Аднак жа неяк усё-ж такі ўспамінае, што ня раз і ня два разы размаўляў ды прымаў у сябе, будучы міністрам, абодвух галоўных канаводаў фашыстаўскай галоўнай банды, якія шчыра адкрывалі яму меты і характар арганізацыі. Прызнаецца, што пад націскам Пэнкаславскага—пасьля кракаўскіх падзей (бойня работнікаў з войскам і паліцыяй па загаду хіена-пястоўскага ўраду 6-га лістапада) — прыняў рашучыя папераджаючыя меры ў Варшаве. Запярэчывае толькі заяве Пэнкаславскага, што ён, ген. Шэптыцкі, як ваенны міністар, — меўся стаць на чале ўсяго перавароту П.П.П.

Другі сьведка падкамісар паліцыі **Сухэнэк** сцьвярджае, што абвінавачаныя мелі зносіны і з другім міністэрскім стаўпом Хіена-Пяста—п. Гломбіньскім.

Сьведка ген. **Жукоўскі** прызнаецца, што атрымоўваў адозвы П.П.П., якія яму вельмі падабаліся. Бываў гэты генарал і на розных сабраньнях П.П.П. ў генаралаў ды ксяндзоў, а навет на „прысягах“ у падзямельлях касьцёлаў. Абяцаў ён фашыстам і сваё „супрацоўніцтва“.

Далейшы сьведка інжэнер **Паўлі** ўвайшоў у арганізацыю, пэўны, што ў яе складзе былі старшыня Сэнату Тромпчыньскі (эндэк), Карфанты, Строньскі, ген. Галлер і інш. З другога боку сьведку непакоілі весткі аб спробах паразуменьня Пэнкаслаўскага з... п. Тугуттам ды — Язэпам Пілсудскім! Гэтага сьведка сьцярпець ужо ня мог і — выйшаў з арганізацыі. Дзівіўся сьведка і з таго, што павадыр гэткай замахоўскай арганізацыі канфэруе з сваім міністрам унутраных спраў п.Кернікам, які чамусьці — не арыштоўвае замахоўца. У арганізацыю шырока ўцягвалі вучнёўскую ды студэнцкую моладзь, аб якой Пэнкаславскі характэрна выражаўся, што — „хай лепш яна не атрымае матуры, але — каб мела народова-польскую сьведамасьць“.

Далей выступае цэлы рад сьведкаў—былых „камэндантаў“ розных „акругоў“, на якія разьдзялілі фашысты ўсю Польшчу. Усе яны „багатэлізуюць“ усю справу, ці — жартаўліва прадстаўляюць усю акцыю П.П.П., тлумачучы „непаважнасьцю“ яе свой выхад з арганізацыі.

Іншы ізноў сьведка сцьвярджае, што мін. Кернік цікавіўся бандай П.П.П. ды пытаўся ў яго, ці ўжо належыць да яе. Сцьвярджае і тое, што атрымаў грошы для П.П.П. ад брата ваеннага міністра ген. Шэптыцкага.

Яшчэ адзін з чысленых фашыстаўскіх генаралаў—ген. **Мацэвіч** — прызнаўся, што належаў да арганізацыі, але дзеля таго, што яна была — процікамуністычнай! Сцьвярджае, што П.П.П. вяло перагаворы з пасламі Сойму (ведама-ж—правіцай), каб мець падтрыманьне „Сойму“—пры замаху.

Адзін з абвінавачаных заяўляе, што праграму П.П.П. даў цэламу раду высокапастаўленых асоб у Польшчы.

Рад сьведкаў сцьвярджае, што фашысты згадзіліся, каб дыктатарам стаў навет.... Пілсудскі, абы толькі—здушыць камуністаў, жыдоў з меншасьцямі ды сацыялістаў.

---

Працэс гэты працягнецца, відаць, не адзін тыдзень. Але ўжо і цяпер ясна, што арганізацыі спачувалі больш-менш актыўна ўсе дзеячы польскай правіцы,—на чале з генаралітэтам ды міністрамі Хіена-Пяста. Ясна і тое, што—П.П.П. — толькі зародак польскага фашызму, які ў 1923 г. толькі пачаў разьвівацца хутчэй. Судзяць цяпер якраз гэтых **непаважных** „прымачкоў“ польскага фашызму, які, пусьціўшы пасьля арышту іх глыбейшыя ды шырэйшыя карані ў Польшы, працуе зусім паважна — праз эндэцка-пястоўскія ўрады — дзеля тых самых мэтаў, якія ставілі сабе і „непаважныя“—п. п. Пэнкаслаўскія.

### Варашылаў аб Бэрлінскім Трактаце.

У першамайскай адозьве да чырвонай арміі Варашылаў заяўляе, паміж іншым, аб Бэрлінскім Трактаце,—што—„гэты Трактат, як і Трактат расейска-турэцкі, збудаваў новыя непераможныя барыкады на шляху сусьветнага імпэрыялізму, які прэцца ізноў, як шалёны, у пропасьць новых крывавых бойняў, нябачаных яшчэ ў гісторыі“...

### Нямецка-турэцкі саюз.

Бэрлінскія газэты пішуць, што ў хуткім часе будзе падпісаны саюзны трактат з Турцыяй — такі самы, як Бэрлінскі Трактат з ССРР. Як ведама, ваенна-гаспадарчы дагавор між Турцыяй і ССРР ужо падпісаны паўгоду назад. Гэткім чынам на ўсходзе Эўропы створыцца — з падпісаньнем турэцка-нямецкага саюзнага дагавору такое магутнае аб'яднаньне дзяржаў, якое здолее паралізаваць усялякую небясьпеку для ўсіх трох сяброў саюзу з боку ўсіх іх ворагаў.

### Новы „манархічны скандал“ у Нямеччыне.

Нямецкі ўрад, без паразуменьня з Рэйхстагам (парлямантам), падсунуў для падпісу прэзыдэнту Гіндэнбургу загад аб зьмене новых „рэспубліканскіх калёраў“ дзяржаўнага сьцягу Нямеччыны—старымі імпэратарскімі. Ува ўсей рэспубліканскай Нямеччыне, а перадусім—у сацыял-дэмакратыі—узьнялося страшэннае абурэньне. Адбыліся чысьленыя мітынгі пратэсту. Але Гіндэнбург разам з урадам упорна кажа, што цяпер зьмяняць загад, падпісаны галавой дзяржавы і разасланы ўсім прадстаўнікам Нямеччыны заграніцай, — гэта значыла-б кампраматаваць павагу дзяржавы. Што казаць—чыста зроблена! З калёраў пачаўшы, ідуць упорна да „адбудовы“—Гогэнцоллернаў.

### Водгукі англійскай забастоўкі на кантынэньце.

У выніку забастоўкі англійскі фунт значна ўпаў. Каб ратаваць сваю валюту, Англійскі Банк выкінуў на рынак вялізарныя запасы чужых валютаў, у выніку чаго курс гэтых валютаў значна ўпаў на Лёндавскай Біржы, якая задае тон—дыктуе курс—усім іншым у Эўропе. Найбольш з усіх пацярпеў францускі франк.

Але англійская забастоўка ня толькі падбіла чыста біржавым ударам францускі франк: яна падбіла франк яшчэ і больш страшным гаспадарчым ударам. Англія што-год купляе ў Францыі на 10 мільярдаў франкаў розных тавараў, ды на 2 мільярды купляе француз у англійца. Дык вось забастоўка можа падарваць увесь гэты вельмі важны для ўтрыманьня францускай валюты—даход.

Значна больш важным — ужо агульна-палітычным—вынікам англійскай забастоўкі, калі яна зацягнецца надаўжэй, будзе поўны або частковы параліж актыўнасьці сусьветнай палітыкі англійскага імпэрыялізму — аграбліваньня каляніяльных народаў...—Бо—укушаны знутра жываед-драпежнік, зразумела, выпусьціць з сваіх пазуроў шмат захопленых ахвяр...

Няма чаго ўжо казаць аб тым, што перамога работнікаў у Англіі можа зусім зьмяніць увесь пануючы цяпер у сьвеце лад—да непазнаньня...

### Новы коаліцыйны ўрад у Югаславіі.

Пасьля доўгіх перагавораў—пры ўчасьці караля, дасягнута паразуменьне між сэрбскімі радыкаламі (пашычамі) і харвацкімі людоўцамі (радічаўцамі). У выніку паразуменьня ўтварыўся коаліцыйны ўрад Узуновіча (радыкал). Не ўвайшлі туды, ані сам Пашыч ані сам Радіч. Харваты, апрача 4 міністэрскіх мейсцаў, атрымалі яшчэ 4 мейсцы віцэ міністраў.

### Разрыў міравых перагавораў з рыфэнамі.

З Марокко паведамляюць, што некаторыя варункі міру, пастаўленыя француска-гішпанскім камандаваньнем, былі рашуча адкінуты дэлегатамі Абд-Эль-Крыма. Тады старшыня француска-гішпанскай дэлегацыі заявіў, што далейшыя перагаворы—бескарысныя. На другі-ж дзень пасьля разрыву перагавораў мела распачацца ваенная акцыя. Абд-Эль-Крым абвясьціў агульную мабілізацыю ўсіх запасных.

Трэба-ж ведаць, якія варункі француска-гішпанскія імпэрыялісты паставілі імкнучымся да вольнага жыцьця пляменьням, каб ацаніць усю неабходнасьць рашучай барацьбы паўстанцаў. Вось гэтыя варункі:

1) Прызнаньне вярхоўнай улады султана (пастаўленага — купленага французамі і служачага іх інтарэсам).

2) Разбраеньне ўсіх паўстаўшых плямёнаў, (ведама-ж,—каб азброеныя да зубоў жываеды лягчэй маглі панаваць над мяйсцовым „быдлам“, захацеўшым волі!).

3) Выгнаньне павадыра паўстаньня Абд-Эль-Крыма (врдама-ж, — без галавы дык зусім лёгка парубіць на кавалкі ўсё цела!).

4) Абмен палоннымі і замірэньне.

### Не пакарылася і Сірыя.

Гучна абвешчанае францускай прэсай „пакарэньне ўсей Сірыі“ аказалася перадчасным. Узяцьце крэпасьці Суэйды яшчэ ня вырашыла лёсу паўстаньня. Друзы пад павадырствам султана Атраша ізноў гуртуюцца ў ваенную сілу, якая заяўляе, што будзе бараніць сваю зямлю ды сваю волю ад чужынцаў—да апошняга. Дэлегаты французаў, якія зьявіліся з міравымі прапазіцыямі, узяты друзамі ў палон.

### Рэвалюцыя ў рэсп. Нікарагуа.

У дробнай амэрыканскай рэспубліцы Нікарагуа выбухла „рэвалюцыя“. Лібэралы скінулі рэакцыйны ўрад ды захапілі—з помачай арміі—уладу. У краі абвешчаны ваенны стан. Прэзыдэнтам абвешчаны нейкі Сакузо.

---

У перадавіцы пад загалоўкам „Бліжэй да праўды і этыкі“—напала на нас надовячы ксяндзоўская „Беларуская Крыніца“ (№ 14)—за тое, што ў стацьці яе „Польшчына і беларусы“, зьмешчанай у № 12 „Бел. Крыніцы“, мы дагледзілі новы курс беларускіх хадэкаў—„курс на Варшаву“.

Рэдакцыя „Бел. Крыніцы“ пярэчыць нашаму вываду аб такім яе павароце, узводзячы на нас пры гэтым **беспадстаўныя** абвіненьні ў увядзеньні намі, як сыстэмы, „лаянак“, „нацягіваньня фактаў“ і г. д. Восьжа гэтыя закіды якраз і праўдзе пярэчаць, і ад этыкі дужа далёкія, дык ня дзіва, што ксяндзоўскі орган і ня мог падаць ніякага конкрэтнага прыкладу „лаянак“ нашых і т. п. Калі „велебныя айцы“ маюць на думцы тое, што розных крыміналістаў з так званае „полёнофільскае партыі“ (дэфэнзыўнае) беларуская левая прэса называла іх уласьцівымі імёнамі,—гэта знача: зладзея—зладзеем, шулера—шулерам, дэфэнзыўшчыка — дэфэнзыўшчыкам і г. д.,—дык гэта ж зусім ня „лаянка“, а—сьцьвярджаньне прафэсіі! І гэта—зусім ня грэх, а хутчэй заслуга, бо перасьцерагае грамадзянства перад ягонымі шкоднікамі. Што-ж да „нацягіваньня фактаў“, дык ізноў-жа мы адносна да выступленьня „Бел. Крыніцы“ ў № 12 яе проста **падалі тое, што яна напісала, і так, як кожын чытач яе напэўна зразумеў!..**

З прыемнасьцяй адзначаючы, што рэдакцыя „Бел. Крыніцы“ так рашуча выракаецца „курсу на Варшаву“, мы пазволім сабе даць лішне гарачым нашым калегам з варожага да нас абозу, так брыдка „лаючага“ нас „камуністамі“, добрую раду: не зьмяшчаць стацьцей, асабліва на першым мейсцы, якія не адпавядаюць паглядам рэдакцыі! Гэта ж ужо другі раз рэдакцыя „Бел. Крыніцы“ прымушана **вясьці палеміку з сваім перадавіком і пярэчыць яму**: першы раз справа йшла аб жыдоўскае пытаньне, цяпер—аб „надзеях“ на заваяваньне беларусамі сабе ўсіх правоў пад Польшчай—і то ў працягу пары гадоў! Нашы калегі з „Бел. Крыніцы“ не павінны забывацца аб тым, што аб іх паглядах можна судзіць толькі паводле таго, што яны кажуць і пішуць, а не паводле таго, што... думаюць!..

Урэшце—яшчэ адна ўвага. Калі польская ўлада перасьледуе некага з беларускіх дзеячоў з выразным аблічам, а орган тэй ці іншай групы замаўчываець навет самы факт перасьледаваньня, дык гэта ўсё роўна, як быццам яны моўчкі гаварылі ўладзе: рабеце з ім, што хочаце, — мы за гэта крыўдзіцца ня будзем!.. Вось-жа мы, прадстаўнікі сялянска-работніцкае ідэалёгіі, роўна крыўдзімся і роўна адзначаем факты гвалтаў як над „сваімі“, так і над „чужымі“, доказам чаго зьяўляецца хаця-бы тое мейсца, якое мы ўдзялілі справе ксяндза Гадлеўскага, а ён-жа якраз належа да групы „Бел. Крыніцы“! Наадварот, рэдакцыя „Бел. Крыніцы“ маўчыць, як у рот вады набраўшы, калі перасьледаваны беларускі дзеяч не належыць да яе „парахвіі“, і ня толькі „асаблівай“, але наагул **ніякай** увагі на факт перасьледаваньня не зварачае.

Вось, у гэтым мы запраўды-ж далёка адходзім ад лініі паступаньня, ці мо' навет і ад этыкі рэдакцыі „Бел. Крыніцы“.

---

## ХРОНІКА.

**Пахароны К. Сваяка.** 6-га траўня ў Вільні—у Літоўскай Паліклініцы—памёр ад сухотаў беларускі паэт кс. К. Стэповіч, ведамы пад мянюшкай Казіміра Сваяка. Апошнія месяцы перад сьмерцяй ён лячыўся ў Закапаным, але, пачуўшы канец, папрасіў перавезьці яго на Бацькаўшчыну, каб пахавалі яго ў Роднай Зямлі.

7-га траўня ўвечары цела яго было перанесена ў касьцёл сьв. Мікалая, а 8-га пахаронена на магільніку Росса.

У пахаронах прыняло ўчасьце ўсё віленскае беларускае грамадзянства. У касьцеле прамаўляў, разьвітываючыся з нябожчыкам, пасол кс. Станкевіч; на магільніку—старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту грам. Савіцкі, прадстаўнікі студэнтаў (Зянюк) і вучнёўскае моладзі (Грышкевіч), прадстаўнікі беларускага духавенства і палітычных груп. Была прамова прадстаўніка літоўскага грамадзянства—палітоўску.

Трэба наагул адзначыць гарачае ўчасьце ў сумным абрадзе літвіноў. Наадварот, з польскага грамадзянства ня было нікога. Аднак, спаўняючы просьбу паэта, каб на яго магіле прамаўлялі ўва ўсіх краёвых мовах, прамовіў папольску беларус—кс. Рэшаць.

На магіле пакладзена шмат вянкоў.

**Падзяка.** Беларускае Навуковае Таварыства высказывае сваю шчырую падзяку грхм. Леону Васілеўскаму за ахвяраваны для музэю ім. Ів. Луцкевіча экзэмпляр гэктографованага журналу „Гоман“ № 2, выданага нелегальна ў 1884 годзе ў Менску. (Гэты першы орган беларускае рэвалюцыйнае інтэлігенцыі прадстаўляе вялікую рэдкасьць і дае нязвычайна цэнны матар'ял дзеля гісторыі беларускага адраджэнскага руху. Рэдакцыя нашае часопісі пастараецца бліжэй пазнаёміць з ім нашых чытачоў).

**У Віленскай Беларускай Гімназіі.** 11-га траўня пачаліся выпускныя экзамены ў гімназіі. Экзаменуюцца вучні VII і VIII клясы. У гімназіі з сёлетняга году ўведзена гэткая перамена. Вучні заканчываюць агульнаўзгадавальны курс у VII клясе, а восьмая кляса меціме два спэцыяльныя аддзелы: пэдагагічны і матуральны (дзеля падгатоўкі да паступленьня ў вышэйшыя школы). Гэтак і тыя сямікласьнікі якія экзаменуюцца цяпер, павінны будуць выбраць той ці іншы шлях у далейшым вучэньні.

**Арышты ў літоўскай гімназіі ў Сьвянцянах.** Як паведамляе „Słowo“, 2-га траўня сярод вучняў літоўскае гімназіі ў Сьвянцянах былі зроблены вобыскі і арышты. Арыштованы былі 18 асоб, ў тым вучні ад 15 гадоў. Абвінавачываюць іх у ўчасьці ў арганізацыі—пад кіраўніцтвам аднаго з вучыцялёў, якая мела на мэце ...шпіёнства на карысьць Літвы, а так-жа „замахі“ на дзяржаўныя ўстановы, узрываньне мастоў на чыгунках і вайсковых рэчаў і г. д. Доказам гэтага мае быць... 1 вінтоўка, 2 рэвальвэры і 60 патронаў, знойдзеныя пры вобысках!..

Абшарніцкне „Słowo“, падаючы гэтую вестку, тлумачыць, быццам ....літвіны самі сябе справакавалі, каб у Літве даць ураду падставы дзеля перасьледаваньня польскіх школ—у адказ на арышты пятнаццацігадовых літоўскіх „дывэрсантаў“ і „шпіёнаў“! Цынізм абшарніцкіх пісак, як бачым, ня мае граніц.

Мімаволі прыходзе на памяць крывавая драма ў **польскай** казённай гімназіі ім. Лелевэля ў Вільні, калі выявілася, што вучні-палякі ня толькі маюць рэвальвэры, але і бомбы — дзеля кіданьня ў сваіх-жа **польскіх** вучыцялёў. Ну, ды гэта былі палякі: ім усё можна! Дый у „дывэрсіі“ іх ніхто напэўна вінаваціць ня будзе!..

**Выкрытая правакацыя.** „Słowo“ падае вестку аб няўдаўшайся правакацыі, зробленай б. канфэдэнтам палітычнае паліцыі ў Дзісьне, Пятром Хэнтовскім. Ён проста падкінуў у хату грам. Гіпаліта Багуцкага нейкія камуністычныя інструкцыі, а пасьля данёс паліцыі, што папаў на сьлед камуністычнае арганізацыі ў Дзісьне, ды што галавой гэнае арганізацыі зьяўляецца Багуцкі. У апошняга ўраз-жа быў зроблены вобыск і знойдзены падкіненыя дакумэнты. Багуцкага заарыштавалі. Аднак, падазроннае паступаньне Хэнтовскага і дамаганьне грошы за выдачу „камуніста“, а так-жа ўстанаўленьне пры дапросе, што Багуцкі нічога аб дакумэнтах, узятых у яго, ня ведаў, навялі на думку, што справа тут нячыстая. Пачалі дапытываць Хэнтовскага, і правакатар мусіў прызнацца, як было папраўдзе, адмовіўшыся толькі сказаць, скуль узяў камуністычную інструкцыю.

Багуцкага звольнілі, і месца яго ў вастрозе заняў Хэнтовскі. А сколькі такіх правакатараў гуляе на волі, пад той час, як іх ахвяры бязьвінна гніюць у вастрогах?

**Афіцыяльны курс грошы на 12 траўня.** Даляр — 9 зл. 05 гр. Залаты рубель — 5 зл. 14 грошы.

12. V. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 11 зл.

---

## Прывітаньне Белар. Сял.-Раб. Грамадзе.

Агульны сход беларускага паступовага студэнцтва ў Празе, скліканы 10-га красавіка с. г. беларускім студэнцкім культурна-прасьветным таварыствам „Грамада“, прыняў рэзалюцыю, у якой кажа, што „беларускае паступовае студэнцтва, знаходзячыся на эміграцыі, уважна сачыць за тэй цяжкай барацьбой, якую прыходзіцца вясьці Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе за правы беларускага працоўнага народу“. Рэзка асуджаючы далей другія беларускія групы ў Сойме, якія пайшлі па шляху еднасьці з буржуазіяй і гэтым самым выпаўняюць роль слуг яе, сход сьцьвярджае, што толькі „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, стаўшы на грунт самага цеснага саюзу работніцкае клясы з сялянствам, запраўды змагаецца за сацыяльныя і нацыянальныя патрэбы беларускага працоўнага народу. Беларускае паступовае студэнцтва шчыра вітаець Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду і жадаець ёй пасьпеху ў барацьбе з польскімі капіталістамі і абшарнікамі і іх беларускімі прыхваснямі“.

---

## Карэспандэнцыі.

### Як у нас рыхтаваліся да I мая.

(П І Н С К).

У панядзелак 26/IV па ўсім горадзе былі раскіданы камуністычныя адозвы першамайскія і іншыя. У аўторак адбыліся вобыскі на ўсіх параходах, лодках і сярод праяжджаючых сялян. Нікога аднак не арыштована.

Уначы з 29 на 30 красавіка арыштавана ў Пінску 18 асоб. Абвінавачываюць іх, як і заўсёды ўжо гэта робіцца, у прыналежнасьці да камуністычнай партыі. Пакуль што усе сядзяць. Справа перададзена пракурору.

### Злое нас баіцца.

(В. Лаўрыновічы, Лыскаўскае гм. Ваўкавыскага п.).

У рэзультаце высілкаў дзейнасьці Польскай Партыі Сацыялістаў неяк нядаўна зьявіўся да нас сэкрэтар парабкоўскага „звёнзку“ ў Ваўкавыску нейкі п. Картэльскі, які, памышкаваўшы, трохі з сім-тым пагаварыўшы (манючыся склікаць сход), штосьці паплёўся сабе да суседняга маёнтку, а там, гутарачы з парабкамі, са злосьцяй ды абурэньнем сказаў, што гэтакіх кепскіх людзей, як у Лаўрыновічах, ён яшчэ нідзе ня бачыў, бо прынялі яго вельмі ня прыхільна. Кажа, думаў пераначаваць і склікаць сход, каб з'арганізаваць камітэт, але, бачачы гэтакую няпрыхільнасьць да сябе, мусіў бяз нічога ісьці адтуль.

І добра зрабіў гэты пан, што пакінуў нас, бо гэтакіх „дружкоў“ нам зусім ня трэба, а тое, што гэта праўда, дык сам „сацыяліст“ добра пераканаўся. Гэтым, бязумоўна, ён збавіў нас ад сваей паскуднасьці.

Што паслужыла прычынаю таму, каб гэтак лёгка было пазбыцца п. Картэльскага,—ня ведаю: ці то нацыянальная ды сацыяльная сьведамасьць нашых сялян, ці наадварот, поўная неасьведамленнасьць? Думаю, што гэтаю прычынаю была першая з вышэй зазначаных, бо дурняў, пэўна, сацыяліст Картэльскі апанаваў-бы. У кожным выпадку гэта—добрая праява, якая павінна паслужыць прыкладам беларускім сялянам другіх вёсак.

Кожны беларус ведае, што польскі сацыялізм — гэта лякай паноў эндэкаў, які беларусам, акрамя польскасьці, нічога ня дасьць. **Эс—Эс.**

## ЛІЗУН.

(М. Гарадзея, Нясьвіскага пав.).

У нашым мястэчку на трэйцяга мая рабілі маніфэстацыю: пажарная каманда, вучні тутэйшых школ, войт, паліцыя і... сьвяшчэньнік Аляксандар Ясінскі.—Ен вышаў з крэсным ходам да маніфэстантаў і адслужыў малебен у дзень „święta narodowego". Ксёндз не пайшоў, а поп пайшоў!—Прыкрае ўражаньне: падлізваецца да паноў. Да паноў ліжацца, а з мужыка скуру дзярэ, а матушка іначай сялян не называе, як „хамамі"...

Відаць, не разумее, што сіла ў народзе, што, страціўшы веру і пашану ў народзе, ён далёка заехаць ня здолее.—І не заедзе!..

**Адзін з народу.**

## Трэйцяга мая ў Лідзкай царкве.

На трэйцяга мая ў нашай царкве была сказана казаньне ў вельмі патрыятычным духу. Хвалілі надта канстытуцыю, — што яна найлепшая ўва-ўсім сьвеце, што ў Польшчы ўсе роўныя, што ў Польшчы ня жыцьцё, а рай. Заклікалі не хадзіць пад чырвоным сьцягам, бо ходзіць з ім толькі „шантрапа", якая зьяўляецца ворагам царквы і духавенства.—Адным словам надта далёка заехаў „бацюшка" ў палітыку.

І нашто ўсё гэта?! Ясна—каб падлізацца, каб высунуцца перад уладай, каб быць на добрым „счету". Але айцы духоўныя, адна вам чэсьць і доля, толькі-б вы ня лізаліся! **Лідчанін.**

## Маленькая дэманстрацыя.

(Пастаўшчына)

Атрымліваю сяньня разам з пошты „Сялянскую Ніву" і „Беларускае Слова". Ня ўсьпеў апошнюю ўкінуць у скрынку „для спэцыяльных мэтаў", як зьяўляецца да мяне грамада сялян-суседзяў паслухаць беларускіх газэт.

На гэты раз „Беларускай Справы" не атрымаў, то, нямаючы пад рукамі лепшага чытаньня, паслухайма, што піша „Сялянская Ніва",—зьвярнуўся я да суседзяў.

— „А гэта газэта з нашых? — пытаюцца ў мяне.

— Пабачым.

Чытаю перадавіцу N В: „Спалохаліся народнага руху". Чытаю, а наперад ведаю, што гэты бруд, які ўзваліваецца на ўладу працоўных, будзе не даспадобы маей „аўдзіторыі", якая складаецца чуць не з адных заможных сялян.

— „Хто гэта піша?" — пытаюцца ў мяне мае слухачы.

— Наш пасол Ярэміч, які задаўся мэтай арганізаваць сялянскі саюз, каб ляпей бараніцца ад нашых „векавечных ворагаў" — рабочых і батракоў!—адказываю я цікавым.

— „Дык, калі ласка, прачытай далей",—просіць мая „аўдыторыя.

Чытаю далей і бачу, што мае слухачы па адным уцякаюць за парог, не сказаўшы мне ні слова. Я перастаў чытаць, бо некаму было слухаць, і выйшаў на вуліцу, дзе сустрэў сваіх слухачоў.

— Ну, чаго-ж вы так раптам уцяклі? — пытаюся я.

— „Калі-ж неяк нудна робіцца на сэрцы, слухаючы, што тое, што нам дорага, як працоўным, абліваецца паскудзтвам. І гэта хто абліваe?—тыя, каго мы выбіралі нас бараніць, нам збудаваць лепшае жыцьцё. Ну і будуюць, толькі хто ў гэтым „будынку" будзе жыць—ня ведама! Я добра ўцяміў апошнія словы перадавіцы" — кажа адзін з слухачаў,—што гэта сказаў-бы пану Ярэмічу": народ гэтага ня сьцерпіць і прыйдзе час, што зьмяце вас са сваей дарогі. А гэты час не за гарамі, і гэта павінны былі-б ведаць тыя, каму так падабаецца „фліртаваць" ужо з запраўднымі нашымі ворагамі, якіх чамусьці Ярэміч астаўляець у супакоі...

Я пакінуў грамаду, прышоў у сваю хату запісаць пад сьвежым уражаньнем гэты факт на паперку, і думаю, што нас — беларусаў не абаламуцяць! **П—ны.**

## Беларускасьць расьцьвітае — культура шырыцца.

(В. Осіповічы, Вялейскага пав.).

Прышоў травень,—кожны кусьцік расьцьвітае—усё ажыло, прачыхаецца, сьмяецца. Як-бы пачуўшы вясну, расьцьвітае і беларускасьць на вёсцы—дае красачкі беларуская культура.

4 траўня ў в. Асіповічы была згуляна п'еса Ф. Аляхновіча — „Калісь". Пасьля спэктаклю — сьпевы і скокі. Гэтая вёска мае такую марку ў паліцыі, што там, „усе бальшавікі", і ніяк не магла дастаць дазволу на спэктакль, але цяпер, дзякуючы стараньням бацюшкі Апона, удалося здабыць дазвол на вечарыну.

Хоць я меў вялікую і пільную справу тады, але рашыў застацца на вечарыне. — У восем гадзін заходжу — тэатр на вясковым таку, — душа цешыцца—скуль набралі гэтулькі крэслаў!—дарагая бразэнтавая заслона!

Публікі некалькі сотняў. Адчыняюць заслону!—Дэкорацыя задзіўляючая. Гулялі добра.

Каля мяне сядзіць селянін у шэрай сьвітцы; пытаюся: скуль ён?—Кажа: ня тутэйшы — а з в. Лазаўцы. — Радасьць агарнула мяне, што шэры селянін адчувае патрэбу тэатру, здалёк ідзець, каб пабачыць свае роднае, каб падтрымаць яго, што—дабіваюцца яго.

Пасьля спэктаклю пазнаёміўся я з арганізатарамі. Гэта — вясковая інтэлігенцыя. Яна ня сьпіць—працуе.

Чэсьць табе—гэтай моцнай духам інтэлігенцыі! будзь ты прыкладам для другіх!

**Глядзельнік.**

# З Радавае Беларусі.

## Белсельсаюз—у пасяўной кампаніі.

Да веснавой пасяўной кампаніі Белсельсаюз загатовіў для каапэраванага жыхарства на 150.000 руб. розных вырабаў з мэталаў (35 проц. агульнай патрэбы).

Насеньня Белсельсаюз загатовіў на 113.000 руб. Наагул, патрэба ў насеньні будзе здаволена амаль поўнасьцю.

Угнаеньняў с.-гасп. каапэрацыя загатовіла на 282.000 р., у гэтым ліку Белсельсаюз закупіў на 100.000 руб. і акруговыя сельсаюзы—на 70.000 р.

Патрэба ў мінэральных угнаеньнях да веснавога севу здаволена на ўсе 100 проц.

Сельска-гаспадарчага інвэнтара Белсельбанк загатовіў на 917,000 р.

## С.-г. крэдыт.

У другім квартале с. г. на сельскую гаспадарку Белсельбанк адпусціў, як крэдыт, 1.228.500 р. Гэтыя сродкі пойдуць выключна на вытворчыя патрэбы, адпаведна чаму большая палова іх (751.500 р.) мае доўгатэрміновы характар.

Крэдыт мае гэткае прызнаньне: на куплю рабочае скаціны—125.000 р., с.-г. машын і прыладаў—110.000 р., на с.-г. будынкі—170.000 р., на земляўпарадкаваньне і перасяленьне—180.000 р., на мінэральнае і зялёнае ўгнаеньне — 60.000 р., на травасеяньне і вырашчываньне насеньня—295.000 р., на набыцьцё рагатай жывёлы—50.000 руб., на малочную справу, закладку пітомнікаў, пчалярства і інш.—138.500 руб.

## Рост с.-г. каапэрацыі.

У сучасны мамент па БСРР налічваецца каля 1.000 с.-г. каапэрацыйных аб'яднаньняў са 150.000 сябрамі.

На 1 студзена 1925 г. гэтых аб'яднаньняў было 867 з 48.000 сябрамі.

Паявы капітал узрос з 162.000 руб. (на 1 студзеня 1925 г.) да 350.000 (да пачатку 1926 г.).

У паказаны лік уваходзяць толькі каапэрацыйныя аб'яднаньні—пайшчыкі Белсельсаюзу.

## Пашырэньне дзейнасьці дзярж. кас ашчаднасьці.

За сакавік уклады дзяржаўных працоўных кас ашчаднасьці павялічыліся на 25.919 руб. і на 1-га красавіка выявіліся ў агульнай суме 880.099 руб., прычым па асобных касах гэта сума разьмяркоўвалася так: пашт.-тэлегр. касы—407.249 р., пасрэдніцкія касы—25.470 руб., касы пры філіялах дзярж. банку — 16.519 руб. і чыгуначныя касы — 4.687 руб.

Кліентура кас павялічылася на 714 чал. і на 1-га красавіка дасягнула 19.927 укладчыкаў.

За апошні час значна павялічылася кліентура па апэрацыях куплі, прадажы і закладу аблігацый дзярж. пазык.

Для выгады кліентуры галоўная каса пашырыла вядзеньне апэрацый да 9 з палов гадзіны вечара і па нядзелях—ад 10-й да 3-й гадз. дня.

## Дэлегат БСРР у Парыжу.

На міжнародавую санітарную канфэрэнцыю, якая мелася адчыніцца ў Парыжу 10 мая, урад БСРР выдэлегаваў свайго прадстаўніка—нар. камісара аховы здароўя Барсукова.

Канфэрэнцыя мае на мэце апрацоўку і зацьверджаньне правіл супольнай барацьбы з рознымі пошасьцямі ў пагранічных раёнах, што якраз дужа важна для Радавае Беларусі, якая мае даўгую гранічную лінію з Польшчай.

## Беларусізацыя вайсковых часьцей.

Камандны склад вайсковых часьцей, якія знаходзяцца ў Менску, праходзіць курс па вывучэньню беларускае мовы. Уся палітпраца праводзіцца пабеларуску.

У найбліжэйшым часе маюць быць учынены належныя крокі дзеля перавядзеньня і дапрызыўнай падрыхтоўкі на беларускую мову.

## Другі Усебеларускі Настаўніцкі Зьезд.

На 11 мая назначана ў Менску адчыненьне ІІ-га Усебеларускага Настаўніцкага Зьезду. Зьезд гэты асабліва важны з таго боку, што павінен выявіць ідэйнае аблічча беларускага настаўніцтва, сярод якога яшчэ так нядаўна крэпка сядзеў стары дух—истинно-русски" і „цараслаўны". Зьмена палітычных і сацыяльных настрояў сярод настаўніцтва і беларускае нацыянальнае ўсьведамленьне за апошнія гады зрабілі тут вялікі крок уперад.

## У Менскім Беларускім Пэдагагічным Тэхнікуме.

Другі сэмэстр сёлетняга навучальнага году адзначыўся пераходам на лябараторны мэтад выкладаньня.

Трэба сказаць, што першыя спробы далі ня зусім добрыя вынікі. Пепершае, ня ўсе настаўнікі правялі канфэрэнцыі, а гэтаксама і ўступныя гутаркі, без якіх па некаторых дысцыплінах немагчыма прыступаць да выконваньня заданьня. Па-другое, недахват падручнікаў (на 3-4 асобы адзін падручнік), пры абавязковым прысутнічаньні на занятках прыводзіць да таго, што студэнты, не пасьпяваючы распрацаваць тое ці іншае заданьне на занятках, сядзяць цэлыя вечары дома ці ў бібліятэцы і ўтвараецца навет канкурэнцыя.

Асабліва характэрным і цікавым зьяўляецца чацьвёрты тыдзень, калі падыходзіць здача заданьняў.

Праца тады кіпіць ваўсю. Дзе там думаць аб якім гуртку, калі баявое заданьне—вучоба!

Бязумоўна, што пры такім становішчы—пры недахваце падручнікаў прыходзіцца працаваць 10-12 гадзін у дзень замест паложаных 6 гадз., бо ні ў якім разе распрацаваць 40 -55 старонак за 6 гадз., напрыклад, такой дысцыпліны, як хімія, немагчыма.

# Паштовая скрынка.

Грамадз. **Швіфу.** — Вы прыслалі карэспандэнцыю без свайго прозьвішча і адрасу, — дык ня зьмесьцім.—Трэба падаваць прозьвішча і адрас толькі для ведама рэдакцыі. Ня сказана ў вас такжа, хто і за што забіў войта. Ахвотна будзем другія Вашыя лісты аб жыцьці—Піншчыны друкаваць, падавайце толькі факты. Зазначайце адкуль карэспандэнцыя.

Грам. **Вайтовічу**. Цыркуляр „эміграцкага" бюро атрымалі. Пісьмо Вашае дзеля ўладжаньня закранутай Вамі справы аддалі ў „Грамаду".

**Атрымана:**

Ад: — Базыля Крука, А. Кавалеўскага, Мікалая Ламекі, Яна Усьціновіча, І. Піваварчыка, Паўла Сьвірыда, Мікалая Шакуля, М. Грыгаровіча, Тамаша Кандрацюка, Мікалая Лук'янца, Аляксандра Пахвіцэвіча, П. Дрэмчука, Я. Мінайлы, Паўла Барыса, Васіля Рэцькі, Аляксандра Вільчыцкага, Пятра Волка, Данілы Дожына, А. Даніліка, Юркі Маркевіча, Гальяша Леўковіча—**па 5 злотых**.

Ад:—Аляксея Брукара, А. Яроміча, Яна Боўсюка, Ігната Шошкі, Рыгора Камара, Язэпа Загорскага, Яна Сініцкага, Язэпа Ермаловіча, С. Забаўскага, Сьцяпана Арабока, Лаўрэна Казака, Ігната Рамука — **па 6 зл.**

Ад:—Пятра Канона, Яна Махамэта, Кузьмы Лешчынскага, Марыяна Зёнтка, Антона Гардзея — **па 8 злотых.**

Ад:—Кл. Казака, Нестара Перавоя, Яна Шэйбака, Міхала Калюты, Нікіпара Савіча, Канстантага Койлы, Аляксандра Протаса, Паўла Кучынскага — **па 10 злотых**.

Ад:—П. Крынчыка—16 зл., Базыля Маладзяна—20 зл., Уладзіміра Булаўкі — 7 зл., Трахіма Сакаловіча — 12 зл., Ціхана Бухаўцы—2 зл. 60 гр., Яна Далядудкі—1 зл. 50 гр., Язэпа Клапіна—10 зл. 95 грош., Міхала Жынокі—2 зл. 13 гр., Міхала Утліка — 3 зл. 50 гр., А. Трэпкі—7 зл., Уладыслава Шляхцюка — 2 зл. 50 гр., К. Мушынскага—7 зл. 65 гр., Язэпа Рагача—7 зл. 50 гр., Антона Давідовіча — 2 зл. 20 грош., Мар'яна Зёнтка—14 зл., Якіма Носа — 6 зл. 50 гр., Яна Качэргіна—2 зл. 30 гр., М. Шохэр—20 зл., Аляксандра Кулакоўска — 8 зл. 40 гр., Дарафея Марчука 4 зл. 30 гр. За прададзеныя газэты ў Дунілавічах — 9 зл. 45 гр.

*Беларусы, пішыце ў „Беларускую Справу" аб жыцьці—быцьці нашае вескі, аб крыўдах, зьдзеках і паняверцы, робленых вам адміністрацыяй, аб гмінных справах, школе і г. п.—пішыце аб сваіх ворагах і прыяцелях. Пішыце коратка і ясна, падаючы дакладна факты. У карэспандэнцыі канешна падавайце адрэс свой і скуль карэспандэнцыя. Пішыце свае прозьвішча (толькі для ведама рэдакцыі), бо бяз адрэсу і прозьвішча карэспандэнта карэспандэнцыі зьмяшчацца ня будуць.*

„Беларуская Справа", адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.

Рэдактар-Выдавец: **Ал. Вільчыцкі**.

Друкарня **Н Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.